

# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 34 000 рублёў.

15—22 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
№№ 15—16 (2625—2626)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


## ВЯСНА НЕПАЎТОРНАЯ



Мінск. "Гуканне вясны" ў выкананні ўдзельнікаў фальклорнага калектыву "Верас" Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.

● *Мікола КАПЫЛОВІЧ.*

***Кожную вясну чалавек чакае неяк па-новаму, па-асабліваму, як непаўторнае, вялікае абуджэнне жыцця. Ад першых калматых шарыкаў на вербах, ад залатых кветак падбелу, ад звонкіх ручаёў, ад пералівістых песень жаўрукоў мы пачынаем і бачыць лепш, і слухаць чуйна, і дыхаць на поўныя грудзі.***

***Вясна з празрыстым блакітам неба, асляпляльным сонцам, песнямі птушак дорыць усяму жывому радасць і каханне.***

***Вясна заўсёды непаўторная, яна не разбурае, а ствapae. I ў гэтым яе сіла, мудрасць і зачараванне.***



## Беларусы Расіі

2 КРАСАВІКА Ў МАСКВЕ ПРАЙШОЎ УСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ — ГРАМАДЗЯН РАСІІ. НА ІМ ПРЫНЯТА РАШЭННЕ АБ СТВАРЭННІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЙ АЎТАНОМІІ.

7—10 стар.



**РОЗДУМ**



## ЧАС НАДЗЕЙ

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

Мне так падаецца, красавік — месяц надзвычай асаблівы. Апроч таго, што ў гэты час пачынаецца ўзнёслы працэс сапраўднага "матэрыялізаванага" абуджэння прыроды, ён яшчэ асвечаны найвялікшым святам веруючых — Вялікаднем: праваслаўным, каталіцкім, яўрэйскім. На красавік прыпадае мусульманскі Курбан Байрам, "вербная нядзеля", а сёлета і Радаўніца. Красавік, нягледзячы на зімовую стомленасць і дэпрэсію многіх з нас, усё роўна застаецца часам, калі "рэаніміруюцца" старыя і нараджаюцца новыя надзеі, калі плынь жыцця ўбірае ў сябе дадатковыя сілы і, узмоцненая, рухаецца наперад, у будучыню, заклікаючы з сабой людзей. "Мір і згода" — вось дэвіз гэтага звычайнага і незвычайнага адначасова месяца.

Дзякуй Богу, ужо доўгія гады на Беларусі вера з'яўляецца не разбуральным, а аб'яднальным фактарам грамадскага жыцця. У краіне няма аніякіх падстаў што-небудзь казаць пра міжканфесіянальныя спрэчкі або нават канфлікты. Калі будзеце ў Мінску, завітайце на плошчу Свабоды і паглядзіце, як велічна і годна ўпрыгожваюць яе два храмы — праваслаўны Свята-Духаў кафедральны сабор і каталіцкі катэдральны касцёл Прасвятой Дзевы Марыі.

Міжканфесіянальная згода ў краіне — не толькі вынік прыроднай талерантнасці беларускага насельніцтва. Вялізную ролю ва ўсталяванні гэтага працэсу адыгрывае пазіцыя дзяржавы, тая палітыка, якую яна ажыццяўляе ў дачыненні да рэлігійных аб'яднанняў. І сёння наўрад ці хто стане аспрэчваць, што на Беларусі яскрава праяўляецца станоўчы плён гэтых намаганняў. Павага і ўзаемаразуменне, узятыя за аснову ўсіх дачыненняў дзяржавы і веруючых, сталі трывалым падмуркам для далейшага будаўніцтва вельмі складанай канструкцыі сучаснага грамадства.

Тое ж, што можа здарыцца, калі не атрымаецца знайсці паразуменне паміж людзьмі, якія, насяляюць адну краіну — іх агульны дом, мы бачым на трагічным прыкладзе Югаславіі. Сёння там у жахлівым стане апынуліся абодва супрацьстаячыя бакі — і сербы, і касавары. Навука іншым? На жаль, на чужых прыкладах рэдка хто вучыцца. Аднак будзем спадзявацца, што на Беларусі падобнае немагчыма, што беларускі народ, хаця і ідзе ў святы ў розныя храмы, але моліцца аднаму Богу, Богу, які найперш знаходзіцца ў душах людзей. У рэшце рэшт, жыць сумленна, годна, у ладзе адно з адным — гэта запаведзі агульначалавечыя, незалежныя ад расы і веравызнання...

Красавік. Зноў за вокнамі яркае сонца, першая пяшчотная квецень дрэў. Зноў вясна непаўторная...

## Тыдзень: Факты. Падзеі.

## З «ПАСТЫРСКАГА ЛІСТА НА ВЯЛІКДЗЕНЬ 1999»

**КАРДЫНАЛА КАЗІМІРА СВЁНТЭКА, АРЦЫБІСКУПА, МІТРАПАЛІТА МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАГА, АПОСТАЛЬСКАГА АДМІНІСТРАТАРА ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ**



*"Дарагія дыяцэзіяне!*

*Як жа мы часам падобныя да тых вучняў Езуса з дарогі ў Эмаус! У нашай веры ў Бога, у адносінах да Хрыста Пана, нам цяжка згадзіцца з прысутнасцю ў нашым жыцці выпрабаванняў і цярпенняў. Мы хацелі б спадзявацца і перажываць у вызнаванні нашай хрысціянскай веры шчасце, радасць, удачу. Нам лёгка верыць у Бога, калі ў нашым жыцці ўсё складваецца добра, паспяхова. Аднак, калі мы спазнаём у жыцці цяжкасці, няўдачы, асабліва цярпенні, тады ўпадаем у духоўную дэпрэсію, расчараванне і нават адчуваем хістанне ў веры і страту надзеі. Як вучні з Эмаус, кажам: "А мы спадзяваліся...".*

*Але ўсё ж трэба сабе ўсвядоміць, што ў праграме нашай Хрыстовай веры вялікую ролю адыгрывае крыж і з гэтым трэба пагадзіцца. Але таксама разам з тым трэба пастаянна мець на ўвазе, што хрысціянская вера не спыняецца назаўсёды пад крыжам, але ад крыжа яна праходзіць праз пустую магілу Езуса да факта Яго змёртвыхпаўстання. Пасля Вялікай Пятніцы з укрыжаваным Езусам Хрыстом надыходзіць Велікодная Нядзеля з Езусам Хрыстом уваскрослым. І таму ў сваім хрысціянскім жыцці нам нельга толькі быць пад крыжам на Галгоце, але абавязкова ўжо праз пустую магілу Езуса збліжацца і прабываць з Хрыстом уваскрослым. Крыжовая дарога, якая выпадае на наш зямны лёс, вядзе нас праз смерць да змёртвыхпаўстання. Гэтаму нас вучыць і дае прыклад сам укрыжаваны і ўваскрослы Езус Хрыстус".*

Фота Віктара СТАВЕРА.

## З ВЯЛІКОДНАГА ПАСЛАННЯ

**МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ**



*"Калі мы хрысціяне не толькі па назве, то мы пакліканы Госпадам абвяшчаць радасць вечнага жыцця нашым бліжнім і дальнім — усім, хто пакутуе і патрабуе суцяшэння, хто азлоблены і хто ў адчаі, хто ў журбе і хто спустошаны стыхіямі свету гэтага.*

*Мы заклікаем кожную сям'ю і ўсіх, хто працуе на ніве навучання і выхавання маладога пакалення: вучыце дзяцей любові адно да аднаго, бо Гасподзь даў нам запаведзь, "каб той, хто любіць Бога, любіў і брата свайго" (І Ін. 4 : 20).*

*Звяртаем слова вітання і да тых братоў і сясцёр, якія справамі міласэрнасці ў нашых прыходах служаць хворым і нямоглым, якія маюць патрэбу ў спачуванні. Умацоўвайцеся ў працы сваёй прыкладам міласэрнага самараніна, які паслужыў чалавеку, што трапіў у бяду, нягледзячы на яго нацыянальнае і рэлігійнае адрозненне. "Ідзі, і ты рабі таксама" (ЛК. 10 : 37), — кажа ўсім нам Збавіцель. Такім чынам, наш асабісты вопыт міласэрнасці павінен рабіцца сродкам хрысціянскай асветы для выканання запаведзі Хрыстовай. "Па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў паміж сабою" (Ін. 13 : 35).*

*І ратным людзям зямлі нашай накіроўваем мы радаснае Вялікоднае вітанне, нагадваючы словы Хрыста Збавіцеля: "Гэта запаведзь мая, каб любілі адзін аднаго, як Я ўзлюбіў вас. Няма большай за тую любоў, калі хто аддасць душу сваю за сяброў сваіх" (Ін. 15 : 12-13). На гэтым камені веры адвеку ўмацоўвалася наша воінства, свята выконваючы свой абавязак любові да Царквы і Бацькаўшчыны.*

*Мы заклікаем і тых, хто кіруе нашым народам, каб служылі людзям паводле запаведзі Госпада, бо Ён сказаў: "Хто хоча першым быць, няхай будзе з усіх апошнім і ўсім слугою" (Мк. 9 : 25) і "не май злобы на сыноў народа твайго, але любі бліжняга твайго, як самога сябе" (Лев. 19 : 33)".*

П разрыстасць дзяржаўных граніц Рэспублікі Беларусь з Расіяй і Украінай стварае для нашай краіны нямала праблем. Ужо набіла аскоміну выказванне, што Беларусь у выніку такога становішчаператварылася ў "адстойнік нелегальных мігрантаў".

Гэтаму, дарэчы, спрыяе закрытасць граніцы на захадзе дзяржавы, паколькі абсалютная большасць мігрантаў — выхадцы з краін Азіі і Афрыкі — усімі праўдамі і няпраўдамі імкнуцца трапіць у развітыя еўрапейскія краіны, а наша дзяржава выступае на іх шляху толькі своеасаблівым пераваланым пунктам. Яны сутыкаюцца з праблемай пераадолення беларуска-польскай ці беларуска-літоўскай мяжы і месяцамі жывуць у Мінску і іншых нашых гарадах, прыносячы ўладам і грамадзянам краіны дадатковы клопат.

Але некаторыя мігранты, прыбываючы ў Беларусь, маюць другую мэту: застацца менавіта тут. Яны становяцца на ўлік у Дзяржаўнай міграцыйнай службе (ДМС) і хадайнічаюць аб прадастаўленні ім статуса бежанцаў.

## БЕЛАРУСЬ – КРАІНА БЕЖАНЦАЎ?

Спецыялісты ДМС уважліва разглядаюць усе заявы і падставы і часткова задавальняюць просьбы. Такім чынам, грамадзяне з іншых дзяржаў атрымліваюць законныя падставы для пражывання ў краіне, дах над галавой і карыстаюцца пэўнай часткай правоў, якія маюць грамадзяне Беларусі.

Як сведчаць статыстычныя даныя, міграцыйны пік Беларусь перажыла ў 1993 годзе. Тады ў ДМС краіны звярнулася толькі афіцыйна 10 442 чалавекі. У наступным годзе іх колькасць ужо зменшылася амаль удвая — 5 323. Працягвала яна падаць і далей: у 1995 годзе з просьбай аб прадастаўленні статуса бежанцаў звярнулася 3 762 грамадзяніны, у 1996 — 1 537, у 1997 — 724. Але летась зноў намеціўся рост — была зарэгістравана 951 заява. Усяго ж у 1992 — 1998 гадах у ДМС Беларусі звярнулася 32 200 чалавек.

Найбольшая колькасць бежанцаў у нашу краіну прыбыла з Латвіі і Расіі — 7 047 і 4 945 чалавек адпаведна. У шэрагу лідэраў таксама апынуліся Грузія, Літва, Таджыкістан і Казахстан. Але калі з Расіі, Латвіі, Літвы і Грузіі людзі ў асноўным беглі ў 1992 — 1995 гадах, то паток бежанцаў з Таджыкістана і Казахстана застаецца параўнальна высокім да гэтага часу. У 1994—1996 гадах у Беларусь прыбыло шмат выхадцаў з Украіны.

Супрацоўнікі ДМС, якія валодаюць поўнымі звесткамі пра асоб, што звяртаюцца да іх з хадайніцтвамі, падлічылі, што амаль палова грамадзян (14 434), якія за сем гадоў прасілі аб прадастаўленні статуса бежанца, — беларусы па нацыянальнасці, 10 231 — рускія, 1 691 — украінцы, 937 — армяне, 703 — палякі, 603 — таджыкі. Такім чынам, прытулак у Беларусі просяць перш за ўсё этнічныя беларусы: удзельная вага іх складае 48,2 працэнта. Грамадзян, якія валодаюць рускай мовай, налічваецца 84,3 працэнта. Большая частка бежанцаў — людзі працаздольнага ўзросту, трэць — дзеці і дзесяць працэнтаў — састарэлыя.

За два месяцы гэтага года ў Дзяржаўную міграцыйную службу ўжо звярнулася 149 мігрантаў, з якіх палова просіць прызнаць іх бежанцамі. Гэта пераважна выхадцы з Таджыкістана, Расіі, Грузіі і Афганістана. Усяго ж у студзені—лютым 1999 года было зарэгістравана 40 бежанцаў, з якіх 21 — афганцы.

Юрась ДОМНІЧ.

### ВЫБАРЫ



4 красавіка ў Беларусі адбыліся выбары мясцовых Саветаў. Раніцай 5 красавіка старшыня Цэнтральнай камісіі па правядзенню выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына змагла канстатаваць, што выбары адбыліся ў цэлым па краіне. Усяго па Беларусі з 7 мільёнаў 300 тысяч выбаршчыкаў на ўчасткі для галасавання прыйшлі 66,3 працэнта грамадзян, якія маюць права голасу.

Нядзельныя выбары ў мясцовыя Саветы былі адметныя тым, што ў іх упершыню маглі ўдзельнічаць грамадзяне Расійскай Федэрацыі, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Беларусі. Як паведаміла Лідзія Ярмошына, яны былі ўключаны ў спісы выбаршчыкаў на агульных падставах.

*Фота В. СТАВЕРА і БелТА.*

### ДАПАМОГА З ЕЎРОПЫ

Еўрапейская камісія прыняла рашэнне выдзеліць новым незалежным краінам, да якіх, па тэрміналогіі ЕС, адносяцца дзяржавы СНД і Манголія, дадатковую дапамогу на суму 20 мільёнаў еўра. Як паведаміла БелТА, гэтыя грошы, узятыя з бюджэту праграмы ТАСІС на 1999 год, накіроўваюцца на пераадоленне вынікаў расійскага фінансава-эканамічнага крызісу. Пры гэтым дапамога прадастаўляецца толькі тым краінам, на якіх асабліва моцна адбіўся крызіс у Расіі. Да іх ліку еўрапейскія спецыялісты аднеслі Беларусь, Арменію, Азербайджан, Грузію, Малдавію, Таджыкістан, Кіргізію і Украіну.

### БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ

## САВАНЮК ПРЫЗНАНЫ ВІНАВАТЫМ

Ураджэнец Беларусі 78-гадовы Энтані Саванюк — былы паліцэйскі, які служыў гітлераўцам у гады другой сусветнай вайны, прызнаны 1 красавіка вінаватым па адным з двух абвінавачванняў у забойстве мірных жыхароў вёскі Дамачава, што пад Брэстам. Да такога заключэння прыйшлі адзінаццаць прысяжных журы ў ходзе беспрэцэдэнтнага судовага працэсу ў Вялікабрытаніі.

Былы паліцэйскі аб'яўлены вінаватым у расстрэле жанчыны яўрэйскай нацыянальнасці, учыненым у верасні 1942 года, праз пяць дзён пасля забойства немцамі паблізу Дамачава 2 900 прадстаўнікоў мясцовай яўрэйскай абшчыны. Ракавыя для злачынцы паказанні па гэтаму абвінавачанню даў Аляксандр Баглай, якому ў той час было 12 гадоў.

Суд працягвае разглядаць паказанні сведак па забойству Саванюком яшчэ адной ахвяры — невядомай жанчыны.

Падсудны ўпарта адмаўляе ўсе факты расправў над жыхарамі роднай вёскі. Больш таго, ён ужо неаднаразова абвінавачваў у хлусні як сведак, так і пракурора Джона Натынга. Яўна галаслоўныя сцвярджэнні, што прагучалі ў яго выступленні аб змове супраць яго Скотланд-Ярда і КДБ, былі расцэнены хутчэй як спроба прыкінуцца псіхічна хворым. Суд пастанавіў не спыняць разбор і давесці ўсё да фіналу.



# ГЭТЫ НЕБЯСПЕЧНЫ ХАЛЕСТЭРЫН...

Цэнтры аховы здароўя ўсяго свету ўжо даўно вывучаюць, што такое халестэрын, якую небяспеку ён мае для чалавека і як яе пазбегнуць.

У нашай краіне вывучэннем праблемы павышанага халестэрыну займаецца Рэспубліканскі ліпідны лячэбна-дыягнастычны цэнтр метабалічнай тэрапіі. Знаходзіцца ён у Віцебску. Першага студзеня 1999 года яму афіцыйна споўнілася два гады. Афіцыйна таму, што яшчэ 10 гадоў назад пры Віцебскім медінстытуце была створана лабараторыя, якая вывучала ліпіды. Пазней яна ператварылася ў гарадскі цэнтр. Затым у абласны. Чатыры гады назад цэнтр стаў рэспубліканскім, але дзейнічаў на функцыянальнай аснове. І толькі два гады назад ён быў зарэгістраваны як юрыдычная асоба.

Галоўны ўрач цэнтра Эдуард Дацэнка лічыць, што поспехі ў лячэнні і прафілактыцы сардэчна-сасудзістых захворванняў на Захадзе ў многім залежаць ад інфармаванасці. Кожны ведае, што такое халестэрын і як не дапусціць павелічэння яго колькасці. На ўпакоўках прадуктаў харчавання ўказаны ўзровень халестэрыну ў даным прадукце. Адна з задач цэнтра ў тым, каб распаўсюдзіць як мага больш інфармацыі аб данай праблеме. Прычым тлумачыць, што такое халестэрын трэба не толькі простаму абывацелю, але і ўрачам. Раней, напрыклад, лічылася, што такая хвароба, як атэрасклероз, невылечная і можа толькі прагрэсіраваць. А аказваецца, можна дабіцца адваротнага. Каб змяніць адносіны да падобных рэчаў, ліпідны цэнтр часта праводзіць семінары. Акрамя таго, па ўсёй рэспубліцы рассылаюцца інфармацыйныя пісьмы. Яны адрасаваны ў абласныя, гарадскія ўстановы аховы здароўя, кардыялагічныя дыспансеры і да т. п.

Апрача тэарэтычных заняткаў, цэнтр займаецца і практычнай дзейнасцю. Пры ім працуе лабараторыя, у якой абследуюць пацыентаў, ёсць кансультатыўны кабінет. Яго наведвальнікі ў асноўным пацыенты кардыялагічных служб. Звярнуцца па дапамогу сюды можа кожны. Індывідуальныя кансультацыі праводзяцца бясплатна. Некаторыя медыкаменты, што прымяняюцца пры павышаным халестэрыне, досыць дарагія. Але пакольк цэнтр займаецца выбарам тэхналогій лячэння, можна падабраць і больш танныя прэпараты. Неабходна толькі, каб сам чалавек усвядоміў важнасць таго, што адбываецца. Натуральна, цяжка перахнанаць чалавека, у якога пакуль нічога не баліць, што трэба прымаць нейкія меры і сачыць за сваім здароўем. А прафілактыка хваробы абыходзіцца значна танней, чым яе лячэнне. Калі звярнуцца па дапамогу своечасова, можна абмежавацца адной дыетай, не трацячы ні капейкі на лекі. Варта заўважыць, што па даных эпідэміялагічных даследаванняў, у 40—50 людзей са ста назіраецца парушэнне ліпіднага абмену. Прычым толькі 10 працэнтаў мае патрэбу ў медыкаментозным лячэнні.

Дзякуючы інфармаванасці насельніцтва, можна ўзняць здароўе нацыі. Прычым трэба расказваць не толькі аб канкрэтнай праблеме павышанага халестэрыну, але і прапагандаваць здаровы лад жыцця.

Міністэрства аховы здароўя Беларусі падтрымлівае пачынанні ліпіднага цэнтра. У гарадах рэспублікі ствараюцца так званыя ліпідныя групы, каб чалавек мог атрымаць дапамогу і рэкамендацыі на месцы, у сваім горадзе, і не ехаць для гэтага ў Віцебск.

Вядома, нельга чакаць імгненных вынікаў работы ліпіднага цэнтра. І ўсё ж уплываць на здароўе нацыі задача зусім рэальная.

**Кацярына АБЕЛЬСКАЯ.**



**Медыка-санітарная частка дзяржаўнага прадпрыемства Мінскі механічны завод імя С. Вавілава — адзіная ў нашай рэспубліцы лячэбная ўстанова са стацыянарам на 135 ложкаў, якая ўтрымліваецца не за кошт дзяржаўных бюджэтных сродкаў, а фінансуецца за кошт даходаў завода.**

***НА ЗДЫМКУ: у кабінеце ультрагукавой дыягностыкі ўрач Алена ТАРАСЕВІЧ і медсястра Кацярына ЧУГАЙ.***

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.*

## ЗДАБЫТКІ ГЕОЛАГАЎ

Прафесійнае свята геолагаў, якое адзначалася 4 красавіка, было ўпрыгожана своеасаблівым падарункам: напярэдадні атрыманы прыток нафты ў Светлагорскім раёне. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл Русы. Па яго словах, сёння беларускія нафтавікі здабываюць каля 1,9 мільёна тон нафты ў год, аднак пастаўлена задача давесці аб'ём нафтаздабычы да 3 мільёнаў тон у год.

Разведка нафтавых радовішчаў — састаўная частка вырашэння глабальнай задачы беларускай геалогіі па стварэнню ўласнай сыравіннай базы для значнага скарачэння імпарту сыравіны. Сёння ж Беларусь імпартуе ў год каля 9 мільёнаў тон нафты, 700 тысяч тон вугалю, 50 тысяч тон цэменту, 2 тысячы тон дапамітаў, і гэта далёка не поўны пералік матэрыялаў, якія маглі б здабывацца ў Беларусі.

Адпаведна, неабходна больш дэтальнае вывучэнне нетраў, прычым не толькі па традыцыйных напрамках, такіх, як калійныя і каменныя солі, але і па зусім новых для Беларусі карысных выкапнях.

Напрыклад, цяпер вядзецца разведка радовішчаў жалезнай руды. Апошнім часам інтэнсіўна вядзецца і пошук алмазаў — ужо разбурана 8 трубак, у асобных кернах знойдзены алмазы вагой па 0,2 карата. Вывучаюцца таксама радовішчы бурых вугляў, якія дапамаглі б вырашыць энергетычныя праблемы. Знойдзены мінеральныя воды — аналагі вядомых вод Трускаўца, Есентукоў, Друскінінкая і інш.

**Ірына КРЫЛОВІЧ.**
("Беларускі рынак").

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# ДАРОСЛЫ ГОЛАС ДЗЯЦІНСТВА

**Ці даводзілася вам назіраць, як амерыканкі спяваюць беларускія песні, пры гэтым яшчэ і прытанцоўваюць? Мне — давялося. І было гэта некалькі дзён таму ў сталічным Доме дружбы падчас чарговага візіту дэлегацыі вучняў і выкладчыкаў са школы Рамапо (ЗША, штат Нью-Йорк).**

26 красавіка 1986 года, у чорны дзень чарнобыльскага выбуху, выкладчык гісторыі сярэдняй школы Рамапо Дональд Кэрнз разам з гуртом сваіх выхаванцаў знаходзіўся на экскурсіі ў Кіеве. У той жа дзень амерыканская амбасада запатрабавала, каб школьнікі спынілі паездку і тэрмінова вылецелі на радзіму. Роўна праз год спадар Кэрнз вярнуўся ў пацярпелыя краіны. З таго часу дзеці і дарослыя са школы Рамапо штогод прыязджаюць на Украіну і ў Беларусь, прывозячы з сабою вялікія партыі гуманітарных грузаў.

У сваёй краіне спадар Кэрнз наладзіў дзейнасць дабрачыннага фонду "Рамапо — дзецям Чарнобыля". Разам з медсястрой шпіталя "Добрыя самарыцяне" Патрыцыяй дэ Франчэска ён узначаліў у штаце Нью-Йорк рух па збору сродкаў і лекаў для пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы. Беларуская хворыя, дзякуючы фонду Дональда Кэрнза, за 12 год атрымалі лекаў і медабсталявання на суму каля 15 мільёнаў долараў. Дарэчы, за гэта ў мінулым годзе спадар Кэрнз быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Сёлета амерыканская група наведала Нясвіжскі, Баранавіцкі, Шаркаўшчынскі і Шклоўскі раёны. Там госці выступілі з канцэртамі перад мясцовым школьніцтвам, а таксама перад хворымі дзецьмі ў шпіталях. Раздавалі не толькі лекі, але і цацкі. У гэтым годзе прывезена рознага кшталту медыкаментаў на суму больш за 45 тысяч долараў. Гуманітарную дапамогу ад Рамапо сёлета атрымалі каля 100 дзіцячых, вайсковых і прафсаюзных здраўніц. А ў Мінску юныя амерыканцы не толькі сустрэліся з сябрамі таварыства дружбы "Беларусь — ЗША", але і ўзялі ўдзел у міжнародным фестывалі народнай творчасці "Голас дзяцінства".

**Уладзіслаў ХІЛЬКЕВІЧ,**
**прэс-сакратар Беларускага таварыства дружбы.**

## СТЫХІЯ

Веснавая вада на Беларусі пакрысе адыходзіць. Гэта пацвярджае і статыстыка апошніх дзён: колькасць "ахвяр" паводкі змяншаецца.

У цэлым па краіне на першую дэкаду красавіка яшчэ заставаліся падтопленымі 23 раёны, 198 населеных пунктаў, 4 771 жылы дом, 7 362 падворкі. З 894 жылых дамоў адселены 2 003 чалавекі, пашкоджаны 42 кіламетры аўтамабільных дарог і 7 мастоў. Аднак ужо не стала ранейшага амаль штодзённага пагаршэння сітуацыі.



*Фота Віктара СТАВЕРА.*

## ХРОНІКА

● Унікальная магчымасць убачыць сёлетнія фільмы — лаўрэаты і намінанты галоўнай амерыканскай прэміі ў галіне кінаіндустрыі "Оскар" не на пірацкіх відэакасетах, а на шырокафарматным экране з'явіцца ў хуткім часе ў мінчан. 24 мая ў сталіцы пад эгідай аб'яднання "Кінавідэапракат" і фонду "Стагоддзе сучаснага кіно" стартуе фестываль "аскараносных" карцін.

* * *

● Аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выраблена ў Беларусі ў студзені-сакавіку 1999 года, па папярэдніх падліках, вырас у супастаўных цэнах на 1 працэнт у параўнанні з аналагічным перыядам 1998 года.

* * *

● На красавік прызначаны час "пік" у вырашэнні лёсу праекта па стварэнню сумеснага беларуска-амерыканскага прадпрыемства па зборцы збожжаўборачных камбайнаў "Джон Дзір" у Віцебску. Чакаецца, што будзе прынята рашэнне аб прадастаўленні крэдытаў у памеры 1 мільярда долараў па крэдытнай лініі "Гермес".

## СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

6 красавіка ў 7 гадзін 15 хвілін перастала біцца сэрца аднаго з лідэраў беларускіх дэмакратычных сіл, вучонага, выбітнага Генадзя КАРПЕНКІ. Ён быў доктарам тэхнічных навук, членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета XII і XIII скліканняў, віцэ-спікерам Вярхоўнага Савета XIII склікання.

Ад прыроды шчодра адораны фізічнай сілай і талентам, Генадзь Карпенка знаходзіўся на ўзлёце сваіх магчымасцяў, 17 верасня яму было б пяцьдзесят, але нечаканая хвароба — інсульт — усё перайначыла.

8 красавіка тысячы людзей з Мінска і іншых мясцін Беларусі праводзілі Генадзя Дзмітрыевіча ў яго апошні шлях.

Такога шматлюднага жалобнага ўзрушэння сталіца Беларусі не перажывала даўно. Шчымлівым смуткам былі пранізаны вершы Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча, выступленні сяброў і аднадумцаў Г. Карпенкі.

Яго ведалі і любілі не толькі на радзіме, але і далёка за межамі Беларусі. Бываючы ў замежных краінах, Генадзь Дзмітрыевіч шукаў і знаходзіў магчымасць спаткацца з суродзічамі-беларусамі. Апошняя такая сустрэча зусім нядаўна адбылася на зямлі Фінляндыі, дзе цяпер знаходзіцца народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

Генадзя Карпенку пахавалі на Маскоўскіх могілках. Тут спачываюць годныя сыны Бацькаўшчыны, сярод якіх і найбольш балючыя заўчасныя страты апошніх гадоў — Міхась Ткачоў і Анатоль Майсеня, аднадумцы і паплечнікі нябожчыка.

**Калектыў Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма" і рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" выказваюць спачуванне старшыні таварыства У. У. МЯЛЕШКУ ў сувязі з вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.**

ЛЮДЗІ І ЛЁСЫ

# НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ



**Для многіх хлопцаў майго пакалення да гэтага часу існуе "афганскі сіндром". Дзве маці з Зэльвенскага раёна і зараз аплакваюць сваіх сыноў... Падчас журналісцкай працы мне давялося сустракацца з імі — Лідзіяй Лях і Аляксандрай Бабіла з пасёлка Акцябрскі.**

АЛЯКСАНДРА АНДРЭЕЎНА і сёння вядзе пошукі свайго сына Міхаіла — лейтэнанта, які з 25 студзеня 1980 года быў адкамандзіраваны ў распараджэнне камандуючага войскамі Туркестанскай ваеннай акругі і праходзіў службу ў Афганістане.

Лісты ад Мішы ішлі стрыманыя, ніякай пахвальбы, а толькі ўважлівая цікавіўся, як ідуць справы дома, як брат і бабуля, родныя і яго аднавяскоўцы...

Вось кароткая вытрымка з пісьма з Афганістана лейтэнанта Міхаіла Бабілы бацькам у пасёлак Акцябрскі. Першы ліст адтуль 22.02.1980 г.

"Дзень добры, дарагія тата, мама і брат Аркаша.

Прабачце за доўгае маўчанне. Хачу паведаміць вам, што я жывы і здаровы і ў мяне ўсё добра. Так што не хвалюйцеся. Жыццёвыя абставіны склаліся так, што я не мог напісаць на працягу амаль цэлага месяца. Знаходжуся ў Афганістане. Вы толькі не хвалюйцеся. Пасля таго, як адправіў тэлеграму, што ў мяне ўсё добра, літаральна на наступны дзень мне давялося сабраць рэчы, развітацца з таварышамі і ўжо з новымі сябрамі выехаць у паўднёвым напрамку. А ящчэ праз тыдзень апынуўся ў Афганістане. Сёння ўжо роўна месяц знаходжання. Абстаноўка тут даволі-такі спакойная. Што мы робім, я вам пісаць не буду — гэта дэталі, аб якіх паведамляць не трэба. Усё тое, што перадаюць па радыё, часткова адносіцца і да нас. Зрэшты, нават і не верыцца, што знаходжуся я ў самым гарачым месцы міжнароднай абстаноўкі. Але вас хачу яшчэ раз супакоіць, што тут даволі спакойна, і за мяне не хвалюйцеся.

Жывём у гарах, так што я дыхаю горным паветрам. Упершыню ў жыцці пабачыў горы. Навучыўся скакаць па іх. Зіма адносна цёплая. Папярэджваю вас, што пошта працуе вельмі нерэгулярна, таму я не ведаю, колькі дзён будзе ісці да вас маё пісьмо і колькі ваша — да мяне.

Яшчэ раз прашу, не хвалюйцеся за мяне. Са мной усё будзе добра. Міша".

Не разлічваючы на тое, што першы ліст дойдзе да родных, наступны быў такім жа лаканічным, зноў просьба да бацькоў не хвалявацца і юнацкае зачараванне прыгажосцю гор. Нават тады ён не забываўся павіншаваць маці з Міжнародным жаночым днём 8-е Сакавіка. У лісце, які датаваны 1 сакавіка 1980 года, ён піша: "Мама, прабач за такую паштоўку, проста ў афганцаў няма адкрытак, прыйшлося знайсці мастака, ён намаляваў..." А ў наступным пісаў пра жаданне перавесціся служыць у разведку, маўляў, цікавей.

Некалькі партрэтаў Міхаіла вісіць у бацькоўскім доме. У кутку пакоя на стале ляжаць публікацыі з розных выданняў пра воінаў-афганцаў, вышук ваеннаслужачых, якія загінулі ў Афганістане і прапалі без вестак, і газета "Комсомольская правда", дзе падаецца падрабязны аналіз вытокаў той не аб'яўленай для экс-СССР афганскай вайны.

4 жніўня 1981 года сям'я Бабіла атрымала паведамленне, што іх сын лейтэнант Міхаіл Бабіла прапаў без вестак. Пастаянныя звароты ў часць, у Міністэрства абароны ніякіх станоўчых вынікаў не даюць, адказ адзіны — пошукі працягваюцца. Тры разы бацька Мішы Іван Яўстафавіч ездзіў у Маскву, каб хоць учапіцца за якую-небудзь вестку, але ўсё безвынікова. Ужо шосты год Аляксандра Андрэеўна сама вышуквае сына. У апошні раз усіх бацькоў, у каго прапалі без вестак дзеці ў Афганістане, выклікалі ў Мінск. І зноў — нічога.

М. Бабіла ўзнагароджаны медалямі "Воіну-інтэрнацыяналісту ад удзячнага афганскага народа", Указам Прэзідэнта СССР ад 28 лістапада 1991 года — "За адвагу".

Па даных міжведамаснай рабочай групы па вышуку і вяртанню на радзіму ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь, колькасць тых, хто прапаў без вестак у час вайны ў Афганістане, дасягнула трынаццаці. І першым у гэтым спісе значыцца лейтэнант М. Бабіла, які прапаў 8 чэрвеня 1981 года ў правінцыі Парван. Я звязаўся з кіраўніком рэспубліканскай міжведамаснай рабочай групы па вышуку і вяртанню на Радзіму ваеннаслужачых, якія прапалі ў Афганістане, — Васілём Казаком. Ён паведаміў, што ў свой час у Мінск прыязджалі з місіяй афіцэры ваеннага ведамства ЗША. Яны паведамілі, што ў васьмідзесятых гадах група савецкіх ваеннапалонных учыніла ўзброенае паўстанне ў лагеры на тэрыторыі Пакістана. Яны захапілі адзін з ваенных аб'ектаў, знішчылі яго і самі па-геройску загінулі. Са слоў адной жанчыны, яны перадалі, што там былі і беларусы. Але сцвярджаць, што сярод удзельнікаў паўстання ў ваенным палоне быў менавіта лейтэнант Міхаіл Бабіла, пакуль дакладна немагчыма. Такую версію ведае і не адмаўляе і маці. Пра ўдзельнікаў паўстання ваеннапалонных расказвае кніга Мікалая Чаргінца "Сыноўя", якая стала настольнай для маці салдата Аляксандры Андрэеўны з пасёлка Акцябрскі.

Па вызначэнню суда Зэльвенскага раёна ад 5 жніўня 1996 года Міхаіл Бабіла прызнаны загінуўшым — памёр пры выкананні абавязкаў ваеннай службы ў час баявых дзеянняў у Рэспубліцы Афганістан.

**Пётр ЖЭБРАК.**



Валерый МАРАКОЎ. 1930 год.

***У гэтым годзе грамадскасць адзначае 90-годдзе з дня нараджэння таленавітага беларускага паэта Валерыя Маракова. Упершыню без цэнзарскага ўмяшальніцтва ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" павінен выйсці зборнік вершаў паэта "Рабінавая ноч". Асобнай кнігай рыхтуецца да выдання жыццяпіс В. Маракова. У шматлікіх публікацыях 1998—1999 гадоў ("Звязда", "ЛіМ", "Голас Радзімы", "Культура", "Полымя", "Маладосць", "Роднае слова", "Крыніца" "Першацвет" і інш.) сучаснікі В. Маракова — С. Грахоўскі, П. Пруднікаў, М. Лужанін, Э. Агняцвет, вядомы даследчык творчасці В. Маракова В. Рагойша — высока ацанілі ўклад паэта ў беларускую літаратуру. У часопісах "Роднае слова" і "Першацвет" надрукаваны***

# ЗНЯВЕЧАНЫЯ ЖЫЦЦІ

ПРЫКЛАДНА ў 1905 годзе Дзмітрый Маракоў разам з маладой жонкай Вольгай (у дзявоцтве — Майсіевіч), мясцовай дзяўчынай, пасяліўся каля чыгуначнага прыпынку Козырава.

З кнігі М. Гарэцкага "Маладняк" за пяць гадоў": "Дзмітрый Маракоў... расіец, родам з вёскі Азяроўка Холмскага павета Пскоўскай губерні, быў меншы сын у сям'і і мусіў шукаць кавалак хлеба ў свеце".

З успамінаў С. Шушкевіча (з асабістага архіва аўтара, які часткова надрукаваны ў часопісе "Роднае слова"):

*"На поўдні горада Мінска, каля чыгуначнай лініі Мінск — Гомель, у канцы дзевятнаццатага стагоддзя ўтварылася невялічкае паселішча... Рашыў тут пасяліцца і былы царскі салдат Дзмітры Маракоў... Муляр і цясляр Дзмітры Маракоў пабудаваў тут спачатку невялічкую хацінку, а праз пэўны час з новых бярвенняў вырас даволі прасторны і прыгожы домік...*

*З маладой жонкай яны пасадзілі вакол дома маленькі садзік, агарадзілі яго штыкетамі, навесілі моцную браму.*

*Праз 5 гадоў побач з хатай Мараковых вырасла ўжо новая вуліца. І таму, што першым пасяліўся на ёй Дзмітры Маракоў, чалавек, род якога, як відаць з прозвішча, звязаны з морам, тутэйшыя жыхары і назвалі вуліцу Марской, а ў далейшым, пры забудове, яна стала Вялікаморскай. Раз ёсць тут Маракоў, павінна быць нешта марское, хоць і мора адгэтуль вельмі далёка.*

*Асабліва радасным для маладой сям'і Дзмітрыя і Вольгі Мараковых стаў дзень 27 сакавіка 1909 года, калі нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Валеры. І пачаў расці на ўцеху бацькам бялявы, сінявокі хлопчык..."*

У 1924 годзе старэйшы сын Дзмітрыя Маракова (у сям'і цяпер падрастала трое сыноў і дзве дачкі) Валерый скончыў сямігодку (дзесяцігодак у БССР тады не было). З 1925 года Валерый стаў сябрам усебеларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Маладняк". У 1926 годзе выходзіць яго першая кніжка вершаў "Пялёсткі", у 1927-м — "На запатым пакосе". На зборнікі амаль адначасова з'явілася больш дзесятка рэцэнзій. "Маракова акрыляе бацькоўская ласка і прыхільнасць Янка Купала..." (С. Шушкевіч).

У 1927 годзе В. Маракоў паступае ў мінскі Белпедтэхнікум. Адначасова працуе ў рэдакцыі "Савецкай Беларусі". У 1930 і 1933 гадах выходзяць яшчэ дзве кнігі паэта... У 1934-м, калі В. Маракоў скончыў мінскі Вышэйшы белпедінстытут, ён стаў ужо вядомым беларускім паэтам і перакладчыкам.

21 сакавіка 1935 года НКУС арыштоўвае Валерыя. Па сведчанні тагачаснага старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Клімковіча, тады ў Беларусі з пісьменнікаў арыштавалі аднаго Маракова. Калі паэт развітваўся з бацькам, ён яшчэ не ведаў, што бачыць яго апошні раз...

4 мая 1935 года староста Козыраўскай царквы Дзмітрый Маракоў быў арыштаваны. Следства працягвалася тры месяцы. 10 жніўня 1935 года быў абвешчаны судовы вынік: *"Імем Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.*

*Спецыяльная судовая калегія Вярхоўнага суда БССР у складзе:*

*Старшынствуючага — старшыні спецкалегіі т. Віксана, членаў спецкалегіі т. Карпіна і Мілярчыка пры сакратары т. Вінаградавай.*

*Заслухалі і разгледзелі ў закрытым судовым пасяджэнні крымінальную справу па абвінавачанню:*

***Семяняка Мікалая Адамавіча**, 1879 года нараджэння, рускага, з сярэдняй адукацыяй, служыцеля рэлігійнага культа — **епіскапа горада Мінска**, беспартыйны, ураджэнец с. Дзятлава Слонімскага павета (Польшча), які жыў у горадзе Мінску, адзінокага, у Чырвонай Арміі не служыў, судзімага ў 1925 годзе на 2 гады ссылкі за контррэвалюцыйную дзейнасць, пакаранне адбыў, па арт. 72-б і 76 КК БССР...*

***Зенюка Івана Пятровіча**, 1872 года нараджэння, беларуса, скончыў духоўную семінарыю, беспартыйны, ураджэнец п. Пагост Бярэзінскага раёна БССР, жыве ў горадзе Мінску, жанатага, на ўтрыманні жонка, служыцеля рэлігійнага культу, **настаяцеля Козыраўскай царквы** ў горадзе Мінску, пазбаўлены выбарчых правоў, у Чырвонай Арміі не служыў, не судзімага, па арт. 72-б і 76 КК БССР...*

***Маракова Дзмітрыя Захаравіча**, 1880 года нараджэння, рускага, пісьменнага, беспартыйнага, ураджэнца в. Азяроўка былой Пскоўскай губерні, жыхара горада Мінска, жанатага... па прафесіі печніка, **царкоўнага старасты Козыраўскай царквы**, у Чырвонай Арміі не служыў, не судзімага — па арт. 72-б і 76 КК БССР... (усяго па справе праходзіла 25 чалавек. — Л. М.)*

*знайшла папярэднім і судовым следствам даказаным, што, пачынаючы з 1933 года, пасля прыезду ў горад Мінск абвінавачанага Семянякі М. А. на пасаду епіскапа... у Козыраўскай царкве пачалі фарміравацца рэлігійныя, кулацкія і іншыя антысавецкія элементы, частка з якіх раней рэпрэсіравалася Савецкай уладай за контррэвалюцыйную дзейнасць, якія паставілі сабе мэту пад покрывам царквы і выканання рэлігійных абрадаў, як легальную магчымасць для апрацоўвання ў антысавецкім духу насельніцтва горада і бліжэйшых раёнаў.*

*Для гэтай мэты на кватэрах у асобных актыўных царкоўнікаў пад выглядам начлега наладжваліся зборышчы веруючых, якія пры-*



*Маці паэта Валерыя МАРАКОВА з сынамі УЛАДЗІМІРАМ (злева) і Леанідам. 1939 год.*




***ўспаміны сяброў паэта, якіх ужо няма з намі, — вядомых пісьменнікаў С. Шушкевіча і А. Звонака...***

***В. Маракоў пражыў толькі 28 гадоў. 29 кастрычніка 1937 года паэта расстралялі як удзельніка антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі. Разам з ім у адзін дзень "нкусаўцамі" былі знішчаны Якаў Бранштэйн, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Алесь Дудар, Хацкель Дунец, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Майсей Кульбак, Юрка Лявонны, Зяма Півавараў, Васіль Сташэўскі, Ізі Харык, Пятро Хатулёў, Павел Шастакоў, Міхась Чарот, Арон Юдэльсон.***

***Але ў гэтым артыкуле мы хацелі б закрануць лёс бацькі паэта — Дзмітрыя Маракова, таксама трагічны, як і лёс сына.***

*язджалі ў царкву, дзе царкоўны актыў праводзіў з імі антысавецкія гутаркі, распускалі чуткі аб блізкай вайне, аб хуткай гібелі Савецкай улады... небяспецы ўступаць у калгасы; чыталася і распаўсюджвалася контррэвалюцыйная літаратура (пропаведзі Іаана Кранштацкага і інш.)...*

*У выніку праведзенай гэтай групоўкай контррэвалюцыйнай работы... тармазілася калгаснае будаўніцтва і іншыя гаспадарча-палітычныя кампаніі. Мелі месца масавыя выезды сялян... масавае хрышчэнне дзяцей... Распаўсюджваліся контррэвалюцыйныя рэлігійныя пісьмы...*

*Толькі пасля арышту гэтай контррэвалюцыйнай групы царкоўнікаў (...) спынілася распаўсюджванне правакацыйных чутак і пачаўся масавы прыліў у калгасы.*

*Канкрэтна вінаватасць асоб, якія праходзяць па справе, устаноўлена наступная:*

*Абвінавачаныя **Семяняка М., Зянюк І., Маракоў Д.** (...) з'ядналіся кіруючым ядром Козыраўскай царквы... (далей ідзе стандартны для "ворагаў народа" пералік абвінавачванняў. — **Л. М.**).*

*А таму спецкалегія Вярхоўнага суда БССР...*

*Прыгаварыла:*

*(...) **Семяняка М. А.** (...) да зняволення ў папраўча-працоўныя лагеры тэрмінам на восем гадоў (...), **Зенюка І. П.** (...), **Маракова Д. З.** (...) да пазбаўлення волі ў папраўча-працоўных лагерах тэрмінам на пяць гадоў..."*

Пакаранне Дзмітрый Маракоў адбываў у Тайшэтлагу ("працаваў" у шахце ў г. Кісялёўску Кемераўскай вобласці).

Аб тым, як рэлігійныя дзеячы, "антысаветчыкі", "нацдэмы" і інш. зняволеныя адбывалі пакаранне ў канцэнтрацыйных лагерах тады ж, у 1938 годзе, паэт С. Хмара (вязень савецкіх, а раней польскіх канцлагераў) напіша:

Капаем. Няўпынна звініць<br>
Аб камень стальная лапата,<br>
І ззяюць ў вачах знямогі<br>
агні;<br>
Далоні — крывавая лата.

Ці ў дождж, ці ў пагоду —<br>
ўсё рухам адным<br>
Паспешна мы вернем<br>
дзярніну.<br>
Нам сонца з сарочак<br>
выпарвае дым,<br>
Шрамоў плечы поўныя<br>
сініх.

Капаем без слова,<br>
без гуку ў цішы.<br>
Лёг цень на галодны<br>
аблічы.<br>
Рве крык прыганятага:<br>
— Гэй, паспяшы,<br>
Бо зноў вашы рэбры<br>
палічым!<br>
Капаем, капаем праз<br>
цэлыя дні, —<br>
Магілу капаем пракляццю!<br>
Прыедзе вясна<br>
к нам на сонцы-кані!..<br>
Капайце ж, лапаты,<br>
капайце!..

Толькі ў жніўні 1943 года Д. Маракоў быў вызвалены. Але ў сувязі з забаронай уезду ў Беларусь дадому вернецца ў 1945.

А вось сведчанне, датаванае 1956 годам:

*"Пратэст*

*Па справе Маракова Д. З. і іншых.*

*Прыгаворам спецыяльнай судовай калегіі Вярхоўнага суда БССР ад 9—10 жніўня 1935 года асуджаны... (далей ідзе спіс з 22 асобаў, у тым ліку Д. Маракоў. — **Л. М.**)*

*Разам з названымі асобамі па гэтай справе былі асуджаны: Семяняка М. А., Зянюк І. П. (...), пратэст у адносінах да якіх не ўносіцца.*

*Справа па абвінавачанню Маракова і іншых згублена.*



*80-гадовы Дзмітрый МАРАКОЎ.*

*Пры праверцы былі запатрабаваны спыненая справа Маракова за 1934 год (і такая справа была? — **Л. М.**), кантрольна-назіральная вытворчасць па справе 1935 года з копіяй абвінаваўчага заключэння і копія прыгавора суда ад 9—10 1935 года.*

*З копіі прыгавора відаць, што Маракоў і іншыя прызнаны судом вінаватымі ў тым, што, пачынаючы з 1933 года, пасля прыезду ў г. Мінск Семяняка М. А. на пасаду епіскапа ў Козыраўскай царкве г. Мінска сталі групавацца рэлігійныя, кулацкія і іншыя па-антысавецку настроеныя элементы, паставілі сабе мэту пад прыкрыццём царквы і выканання рэлігійных абрадаў, як легальную магчымасць для апрацоўкі ў антысавецкім духу насельніцтва горада і бліжэйшых раёнаў...*

*Між тым, паказанні абвінавачаных запісаны неаб'ектыўна, трафарэтна, агульнымі фразамі...*

*Пры такім становішчы лічу, што Маракоў і іншыя асуджаны без дастатковых падстаў.*

*Кіруючыся артыкулам 48 Крымінальнага заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік,*

*Прашу:*

*Прыгавор спецыяльнай судовай калегіі Вярхоўнага суда ад 9—10 жніўня 1935 года ў адносінах (...) да Маракова Д. З. (...) адмяніць..."*

З тлумачальнай запіскі Маракова Д. З.

*1960 года, мая 30 дня. Гор. Мінск.*

*Пракурор следчага аддзела пракуратуры горада Мінска малодшы саветнік юстыцыі Вілько такога чысла прыняў тлумачэнні ад грамадзяніна Маракова Д. З.:*

*"...Цяпер я жыву разам са сваёй жонкай Мараковай Вольгай Станіславаўнай, 1889 года нараджэння і Мараковым Уладзімірам Дзмітрыевічам, 1924 года нараджэння. Сын пакутуе на псіхічнае захворванне (пасля допытаў у НКУС. — **Л. М.**) і зараз знаходзіцца на лячэнні ў адной з бальніц горада Мінска...*

*Другі мой сын — Леанід Дзмітрыевіч, 1913 года нараджэння, у 1941 годзе быў прызваны на ваенную службу ў Савецкую Армію, затым трапіў у палон. У 1943 годзе яму ўдалося ўцячы з палону і вярнуцца ў Мінск. У 1943 годзе ў Васілішках (Заходняя Беларусь) Леанід быў забіты з-за вугла.*

*Трэці сын Валерый Дзмітрыевіч, 1909 года нараджэння, у канцы 1936 года ў горадзе Мінску быў арыштаваны, і, як мне паведамілі, ён загінуў у зняволенні ў студзені м-цы 1940 года (расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. — **Л. М.**). На загінуўшага сына Валерыя мне і жонцы назначылі пенсію ў суме 447 рублёў у месяц. Сам я ў 1935 годзе ў горадзе Мінску быў арыштаваны і знаходзіўся ў зняволенні па жнівень 1943 года. Пасля вызвалення я да 1945 года працаваў на шахце ў горадзе Кісялёўску Кемераўскай вобласці, а затым я вярнуўся ў Мінск у 1945 годзе і да сённяшняга дня працаваў у розных арганізацыях печніком...*

*Пенсію я не атрымліваю таму, што ў мяне няма дакументаў, якія пацвярджалі б мой рабочы стаж..."*

Па якой прычыне Д. Маракова "запрасілі" пісаць "тлумачальную запіску", пакуль застаецца невядомым.

*"Характарыстыка (дадзена па запыту КДБ). Дадзена Маракову Дзмітрыю Захаравічу, 1880 года нараджэння, рускі, беспартыйны... Сапраўды працуе ў домакіраўніцтве № 4 КЭЧ Мінскага раёна з 1956 года ў якасці печніка і муляра (у 80 год. — **Л. М.**). За час працы ў Д/К № 4 т. Маракоў Д. З. паказаў сябе дысцыплінаваным і старанным работнікам, сумленна адносіцца да працы, карыстаецца заслужаным аўтарытэтам сярод рабочых і служачых домакіраўніцтва.*

*Начальнік Д/К № 4 Ярашэвіч. 31.5.1960 г."*

Памёр Д. Маракоў 18 лістапада 1968 г. Так ніводнага разу і не атрымаў ён пенсію, бо не меў дакументаў (НКУС іх чамусьці страціў, як і асабовую справу), якія пацвердзілі б яго амаль 70-гадовы працоўны стаж.

Падрыхтаваў **Леанід МАРАКОЎ.**

г. Мінск.

P.S. Вытрымкі з дакументаў друкуюцца ў перакладзе з рускай мовы з захаваннем асаблівасцей арыгінала.



**Ва ўрочышчы Волева пад Брэстам жыве дзіўны чалавек Уладзімір ФІЛІПОВІЧ. Хаця яму ідзе ўжо семдзесят другі год, ён ліха ездзіць на веласіпедзе, якому таксама нямала — 37 гадоў, на матацыкле, машыне, ходзіць на хадулях, гуляе ў мяч, робіць самамасаж. І пры ўсім гэтым вядзе хатнюю гаспадарку. Сярод "дзівацтваў" Уладзіміра Дзянісавіча, дарэчы, вельмі карысных для здароўя, ёсць і такое — у лесе, за 800 метраў ад дому, ён стварыў на сасне нешта накшталт доміка. Начуе Уладзімір Дзянісавіч тут і летам, і зімой, бо лічыць, што сон у абдымках пышнай хвойнай кроны робіць цела больш вынослівым, надае бадзёрасці і здароўя, пазбаўляе ад галаўных боляў. Сёлета яго лясной пабудове споўніцца 25 гадоў.**

***На здымках: у 71 год — на хадулях; бярозавы сок — нібы тая "жывая вада" з казкі; ля лясного доміка.***

*Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.*







# Беларусы Расіі



Нядаўна адбылася падзея, якая звяртае на сябе асаблівую ўвагу. 2 красавіка ў Маскве прайшоў устаноўчы з'езд беларусаў — грамадзян Расіі. 108 дэлегатаў прынялі рашэнне заснаваць федэральную нацыянальна-культурную аўтаномію "Беларусы Расіі". Яны прадстаўлялі інтарэсы амаль паўтара мільёна беларусаў, што пражываюць на тэрыторыі гэтай краіны і аб'яднаны ў 42 суполкі. Ініцыяravалі гэту падзею аб'яднанні беларусаў Масквы "Бацькаўшчына", а таксама Карэліі, Комі, Краснаярскага краю.

Аптымістычны настрой удзельнікаў з'езда падкрэслівалі жарты, выклікаляі той акалічнасцю, што гэта ўжо пятае аб'яднанне, якое ўзнікла адпаведна расійскаму закону "Аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі", і значыць яму наканавана весці справы на "выдатна". Адпаведна названаму закону "Нацыянальна- культурная аўтаномія ў Расійскай Федэрацыі — гэта форма нацыянальна-культурнага самавызначэння, якая ўяўляе сабой грамадскае аб'яднанне грамадзян Расійскай Федэрацыі, якія адносяць сябе да пэўных этнічных супольнасцей на аснове іх добраахвотнай самаарганізацыі ў мэтах самастойнага вырашэння пытанняў захавання самабытнасці, развіцця мовы навучання, нацыянальнай культуры". На з'ездзе прагучалі віншаванні папярэднікаў — прадстаўнікоў карэйскай, украінскай, нямецкай, татарскай нацыянальна-культурных аўтаномій.

Аб неардынарнасці падзеі сведчылі звароты-віншаванні да ўдзельнікаў устаноўчага з'езда прэм'ер-міністра Расіі Я. Прымакова, Старшыні Дзярждумы Г. Селязнёва, мэра Масквы Ю. Лужкова, міністра нацыянальнасцей Р. Абдулаціпава.

Было зачытана таксама прывітальнае слова Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі.

Старшынёй ФНКА абраны Францішак Каўрыга. У савет з 17 чалавек увайшлі таксама Аляксандр Глод, Аркадзь Крупенька, Наталля Сысоева, Уладзімір Шаплыка і інш.

З'езд упаўнаважыў Савет звярнуцца ў Парламенцкі Сход Саюза Беларусі і Расіі з прапановай аб прадастаўленні ФНКА беларусаў Расіі статуса пастаяннага назіральніка.

**Наталля САЛУК.**

## ЎТВАРЫЛІ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНУЮ АЎТАНОМІЮ

ПРАДСТАЎЛЯЕМ СУПОЛКУ

## ІРКУЦКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ Я. ЧЭРСКАГА

● **Алег РУДАКОЎ**, *старшыня рады ІТБК.*

Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага ўтварылася 31 мая 1996 года на І з'ездзе беларусаў Іркуцкай вобласці. Назва нашай арганізацыі гаворыць сама за сябе.

**Іркуцкае:** мы жывем у горадзе Іркуцку і Іркуцкай вобласці, і дзейнасць нашай арганізацыі ахоплівае менавіта гэты рэгіён.

**Таварыства:** маецца на ўвазе адкрытая арганізацыя, дзе ўсё пабудавана на сяброўскіх, таварыскіх адносінах. Мы рады ўсім і з усімі гатовы супрацоўнічаць. Членамі нашай арганізацыі могуць быць паўналетнія грамадзяне незалежна ад нацыянальнасці. Галоўны крытэрый — жаданне прыняць удзел у дзейнасці ІТБК.

**Беларускай культуры:** уся работа нашай арганізацыі накіравана на захаванне і развіццё беларускай культуры.

**Імя Яна Чэрскага:** наш зямляк Ян Чэрскі — адзін з найвялікіх даследчыкаў Усходняй Сібіры. На яго рахунку мноства прац. Але самая вядомая — геалагічная карта Байкала з апісаннем прыбярэжных раёнаў возера. Чэрскі і яго сааратнікі сталі ля вытокаў утварэння славутага Іркуцкага краязнаўчага музея. Гэты чалавек дарагі нам удвая, і як зямляк, і як славуты даследчык і вучоны. Яго імя для нас — сімвал стойкасці, вернасці свайму абавязку, Айчыне і пастаўленай мэце.

**Задачы ІТБК:** весці мэтанакіраваную работу па адраджэнню і развіццю беларускіх нацыянальных абрадаў, традыцый, звычаяў і рамёстваў. Праводзіць мерапрыемствы, накіраваныя на азнаямленне іркуцян з малавядомым лёсам беларускага народа, яго культурнай спадчынай і гістарычным мінулым. Аб'ядноўваць беларусаў Іркуцкай вобласці ў жыццястойкую, дружную дыяспару.

**Асноўныя напрамкі дзейнасці ІТБК:** наша таварыства існуе ўжо 2,5 года. Сёння мы вядзём сваю работу па некалькіх асноўных напрамках, сярод іх арганізацыя і штогадовае правядзенне беларускіх народных абрадаў (зімой "Каляды", вясной "Гуканне вясны", летам "Сёмуха", "Купалле", восенню "Дзяды"), а таксама іншых масавых культурных мерапрыемстваў (напрыклад, 31 мая вырашана лічыць Днём іркуцкіх беларусаў). Мы прымаем удзел у мерапрыемствах, якія праводзяцца "Цэнтрам народнай творчасці", інтэрцэнтрам "Садружнасць", Аддзелам нацыянальных адносін Іркуцкай вобласці, Палацам дзіцячай і юнацкай творчасці, Абласным цэнтрам дзіцячага і юнацкага турызму, а таксама іншымі культурнымі нацыянальнымі асяродкамі. Штомесяц выходзіць бюлетэнь-газета "Маланка". Таварыства садзейнічае развіццю дзіцячага ансамбля беларускага танца "Прапеска" і дарослага ансамбля беларускай песні, фальклорнага дзявочага ансамбля "Ленушка", юнацкага эколага-краязнаўчага гуртка "Крок".

Сярод нашых набыткаў — арганізацыя маладзёжнага клуба "Крывічы", што вывучае і прапагандуе славянскія традыцыі нашых продкаў, іркуцкага Саюза беларускіх прадпрымальнікаў, стварэнне аддзяленняў ІТБК у Іркуцкай вобласці, правядзенне гістарычных даследаванняў "Беларусы ва Усходняй Сібіры", адкрыццё Бібліятэкі беларускай літаратуры.

ІТБК рада супрацоўнічаць з любымі грамадскімі аб'яднаннямі і асобнымі грамадзянамі, што цікавяцца беларускай культурай, яе духоўнымі каштоўнасцямі і традыцыямі. ІТБК уваходзіць у склад аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", у таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ), у Асацыяцыю народаў Расіі.

МЕРКАВАННЕ

● **Аляксандр БІЛЫК**, *старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.*

**Скажу шчыра, што наш камітэт даўно выказваў прапановы аб стварэнні такога беларускага згуртавання ў Расіі. Шлях аб'яднання ў адзіную арганізацыю ў межах сваіх краін ужо абраны беларусамі Літвы, Латвіі, Украіны, Малдовы і інш. Станоўчыя вынікі ад сумеснай дзейнасці беларускіх аб'яднанняў бачацца як самімі арганізацыямі, так і дзяржаўнымі, грамадскімі структурамі Беларусі.**

**Сёння ў свеце па-за межамі Беларусі жыве каля 3,5 мільёна беларусаў, з іх больш 1 мільёна 300 тысяч у Расійскай Федэрацыі. Пісьмы, якія мы атрымліваем ад беларусаў з розных рэгіёнаў Расіі, сустрэчы, што адбываюцца ў камітэце, прасякнуты інтарэсам да Беларусі. Мы спадзяемся, што новае аб'яднанне будзе садзейнічаць умацаванню культурных і эканамічных сувязей паміж Расіяй і Беларуссю.**

АСОБЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## РАЗВІТАННЕ ЛЯ ЦЁПЛАГА КАМЕНЯ

***Аляксей Каўка — адна з прыкметных асоб у беларускім інтэлектуальным замежжы. Кандыдат гістарычных навук, доктар філалагічных, аўтар некалькіх кніг і шматлікіх выступленняў у перыядычным друку, вядомы грамадскі дзеяч. Прапісаны і жыве ў Маскве, але думкамі, душой і сэрцам быў і ёсць з Беларуссю. Нядаўна ў яго чарговы прыезд у Мінск адбылася гэта гутарка. На маю прапанову сустрэцца ў рэдакцыі пачуў:***



*Полацк, 1990 год. А. Каўка — у цэнтры.*

— Ай, братка Яўген. Чаго ж мы ў чатырох сценах будзем гаварыць! Цяпер жа вясна, сонейка душу лагодзіць, усё ажывае, цешыцца, радуецца жыццю. Давай спаткаемся пад родным небам і пагамонім. Дзе, пытаеш? Давай ля Купалы! Лішні раз прыхінуцца да яго і табе не зашкодзіць.

*Сустрэліся. Нейкіх адмысловых пытанняў я не падрыхтаваў, спадзеючыся, што гаворка, як тая веснавая ручаіна, сама пратočыць сабе дарогу ў належнае ёй рэчышча. Ды выявілася, што часу ў нас вобмаль,*

(Працяг на 8-й стар.).

**СА СТАТУСА ФНКА**

## АСНОЎНЫЯ МЭТЫ АЎТАНОМІІ

Садзейнічанне захаванню і развіццю беларускай мовы, традыцый, нацыянальнай культуры беларускага народа ў розных формах (стварэнне культурных цэнтраў, фондаў, установаў і арганізацый культуры і адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі, паліграфіі, сродкаў камунікацыі і інш., садзенічанне ўдзелу грамадзян у асветніцкай і дабрачыннай дзейнасці, ахове помнікаў гісторыі і культуры, станаўленню нацыянальнай адукацыі і г. д.).

Садзейнічанне рэалізацыі і абароне канстытуцыйных правоў і свабод, нацыянальнай годнасці, садзейнічанне барацьбе з нацыяналізмам ва ўсіх яго формах і праявах.

Садзейнічанне развіццю супрацоўніцтва і ўзаемаразумення з іншымі нацыянальнымі аб'яднаннямі, што дзейнічаюць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі і за рубяжом.

Каардынацыя дзеянняў аб'яднанняў — членаў аўтаноміі, пры неабходнасці — прадстаўніцтва і абарона іх законных інтарэсаў у органах дзяржаўнай улады і кіравання.

Забеспячэнне інфармацыйнага абмену паміж аб'яднаннямі — членамі аўтаноміі.

**ПРАДСТАЎЛЯЕМ СУПОЛКУ**

# КРАСНАЯРСКАЯ КРАЯВАЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ АЎТАНОМІЯ «БЕЛАРУСЬ»

● Наталля СЫСОЕВА,
*старшыня ККНКА.*



Наша грамадская арганізацыя — гэта яднанне людзей, якія жывуць у Краснаярскім краі, але звязаны сваім паходжаннем з Беларуссю, яе культурай і гісторыяй.

Каля 33 тысяч беларусаў, гэта толькі "па пашпарту", пражывае ў Краснаярскім краі, але першыя нашы сустрэчы, знаёмствы паказалі, што тых, чые бацькі і прадзеды прыехалі ў Сібір за апошнія 100 гадоў, намнога больш. Сталыпінская рэформа пачатку стагоддзя, палітычныя падзеі 30-х і 50-х гадоў, будаўніцтва прамысловых гігантаў: Краснаярскага алюмініевага завода, Краснаярскай ГЭС, Усесаюзныя ўдарныя камсамольскія будоўлі і проста пошукі рамантыкі і самастойнасці — гэта ўсяго толькі некалькі этапаў міграцыі беларусаў з абжытых месцаў у Сібір, у Краснаярскі край. Сёння ўжо немагчыма ўявіць эканоміку, культуру, гісторыю Краснаярска без імёнаў і рэальнага ўкладу нашых землякоў-беларусаў. Мне здаецца, што праўленнем Краснаярскай краявой нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусь", якая была створана ў чэрвені 1998 года, выбраны правільныя арыенціры. У першую чаргу — расказаць аб існаванні грамадскай арганізацыі "Беларусь", устанавіць кантакты з іркуцкай, новасібірскай арганізацыямі беларусаў, аб'яднаннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і пасольствам Рэспублікі Беларусь у Расіі. Гэта ўжо зроблена і прыносіць свае вынікі.

### КАГО АБ'ЯДНАЛА НКА БЕЛАРУСЬ?

● **Аэліта САКОВІЧ**, настаўнік геаграфіі:

— Нарадзілася я ў Беларусі, у горадзе Маладзечне. Разам з мужам-ваенным апынулася ў Краснаярску. У аўтаномію прывяло жаданне знайсці родныя душы, блізкіх людзей, што маюць сувязі з Радзімай.

● **Юлій МАРКЕВІЧ**, дырэктар "Красметалснаб":

— Я нарадзіўся ў Сібіры. Мае продкі прыехалі сюды ў 1906 годзе па аграрнай рэформе Сталыпіна. Сям'я на працягу некалькіх пакаленняў захоўвае нацыянальныя традыцыі. Прыцягвае магчымасць сустрэч з беларусамі.

● **Віктар ІСАЕЎ**, прадпрымальнік:

— Сюды мяне прывяло жаданне далучыцца да гістарычных каранёў, паразмаўляць з людзьмі сваёй нацыянальнасці.

● **Галіна ЧАРНЕНКА**, начальнік краявога адраснага бюро:

— У мяне вялікае жаданне сустрэцца з людзьмі, што маюць агульныя са мной нацыянальныя карані, захоўваюць тыя традыцыі, якія пакінулі нам у спадчыну нашы продкі.

● **Сяргей АБРАЗЦОЎ**, мастацтвазнаўца:

— Ідэя аўтаноміі? Гэта вельмі цікава! Цікава размаўляць з людзьмі і праз іх даведвацца яшчэ больш пра Беларусь, гісторыю, культуру нашай гістарычнай Радзімы.

● **Святлана ТКАЧЫК**, педагог па вакалу:

— Прывяла мяне сюды цікавасць да нацыянальных традыцый і магчымасць аб'яднацца. Нягледзячы на тое, што мае продкі апынуліся ў Сібіры ў пачатку стагоддзя, сям'я захавала нацыянальныя традыцыі.

● **Сямён КОЗЕЛЬ**, палкоўнік, начальнік паста іміграцыйнага кантролю міграцыйнай службы Краснаярскага краю:

— У аўтаномію мяне прывёў сум па Радзіме, па Беларусі. Я ў Сібіры з 1960 года.

**СА СТАТУСА ФНКА**

## ПРАВЫ

Нацыянальна-культурная аўтаномія мае права ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам:

— атрымліваць падтрымку з боку органаў дзяржаўнай улады на рэалізацыю канкрэтных праграм і праектаў нацыянальна-культурнага развіцця;

— звяртацца ў органы дзяржаўнай улады і кіравання, прадстаўляючы інтарэсы аўтаноміі;

— ствараць сродкі масавай інфармацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Расійскай Федэрацыі, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю на беларускай мове;

— захоўваць і ўзбагачаць гістарычную і культурную спадчыну, мець свабодны доступ да каштоўнасцяў беларускай і іншых культур;

— садзейнічаць адраджэнню і развіццю беларускіх мастацкіх народных промыслаў і рамёстваў;

— ствараць адукацыйныя і навуковыя ўстановы, установы культуры і забяспечваць іх функцыянаванне ў адпаведнасці з заканадаўствам Расійскай Федэрацыі;

— утвараць недзяржаўныя (грамадскія) дашкольныя ўстановы ці групы ў такіх установах з выхаваннем на беларускай мове;

— ствараць недзяржаўныя (грамадскія) адукацыйныя ўстановы (агульнаадукацыйныя; пачатковай, сярэдняй і вышэйшай прафесіянальнай адукацыі) з абучэннем на беларускай мове;

— засноўваць іншыя недзяржаўныя (грамадскія) адукацыйныя ўстановы з абучэннем на беларускай мове;

— распрацоўваць з улікам падведамасных адукацыйных устаноў вучэбныя праграмы; выдаваць падручнікі, метадычныя дапаможнікі, іншую вучэбную літаратуру, неабходныя для забеспячэння права на атрыманне адукацыі не беларускай мове; уносіць прапановы ў федэральныя органы выканаўчай улады, органы выканаўчай улады суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, органы мясцовага самакіравання аб стварэнні: класаў, вучэбных муніцыпальных адукацыйных устаноў з абучэннем на рускай мове і паглыбленым вывучэннем беларускай мовы, беларускай нацыянальнай гісторыі і культуры;

— заключаць дагаворы з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі за межамі Расійскай Федэрацыі аб стварэнні ўмоў для рэалізацыі права на атрыманне адукацыі на беларускай

**АСОБЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА**

# РАЗВІТАННЕ ЛЯ

(Працяг. Пачатак на 7-й стар.).

*бо ў Аляксея Канстанцінавіча ўсё загадзя распісана. Таму трэба было адразу ж ісці ў наступ і задаваць пытанні. Пачаў я, мяркую, не лепшым чынам, спытаўшы пра тое, што патрабуе ці адназначна адчэпнага адказу, ці роздуму, развагі:*

— **Вы перакананы беларускі патрыёт. Але ж усе мы сучаснікі, гадаваліся, вучыліся і фармаваліся ва ўмовах "общего дома СССР", дзе задачы ставіліся іншыя. І таму амаль у кожнага беларуса ўласны адметны шлях да Беларусі. Раскажыце пра свой.**

— Згодны, што ў кожнага беларуса свой шлях да сябе. Увогуле, гэта вельмі складаная з'ява — фармаванне нашага нацыянальнага характару. Тут столькі сутыкненняў і канфліктаў, узлётаў і падзенняў. Са мной, напрыклад, быў такі факт. У 1948 годзе мяне, дзесяцігадовага, узяў на канікулах да сябе дзядзька ў Мінск. Я гаварыў, як і дома, па-вясковаму і заўважыў, што з мяне пасміхаюцца. Гэта дапякала. Вырашыў перайсці на гарадскую гаворку. Праявіў стараннасць і, здавалася, меў добры поспех. Калі вярнуўся ў сваю Мяшчаліну, узяўся на гарадскі лад перайначваць сваіх равеснікаў. І здорава, мабыць, уеўся ім гэтым у косці, бо аднойчы, калі гулялі ў мяч, нехта на мае павучанні і кпіны выгукнуў: "Ды ну яго, такога "рюскага"! Хай свайго Бобіка вучыць!" — і ўсёй чародкай сыпанулі наўцёкі ад мяне.

А я, як агаломшаны, усё хадзіў каля сваёй ціхай рэчкі Добрыцы і ніяк не мог пагасіць у душы крыўду на хлопцаў, уцяміць, чаго яны ад мяне паўцякалі. Больш нікога не перавучваў, але ціхая прыкрасць засталася. І калі праз два гады мяне, як круглага сірату, аддавалі ў Чэрвеньскі сірацінец, то я настаяў вучыцца ў рускай школе, хоць тады была і беларуская. Але ў самім навучанні перайсці з беларускай на рускую мову аказалася не так і проста. Урэшце выхавацелька ўзяла мяне за руку і сілком завяла ў беларускую школу. За гэта я ёй дасюль шчыра ўдзячны. Каб не яна, усё ж бы магло павярнуцца зусім у іншы бок і я — толькі падумаць, які жах! — з улікам свайго службовага лёсу і свайго характару мог бы стаць заядлым русіфікатарам...

— **Пасля Чэрвеня, скончыўшы дзесяцігодку, вы зноў трапляеце ў зрусіфікаваны Мінск. Новага пераломy не адбылося!**

— Ну, па-першае, на той час не такі ён ужо быў і зрусіфікаваны. Беларускіх школ, мабыць, было не менш, чым рускіх. І ў нашым бібліятэчным тэхнікуме была нармальная атмасфера, нямала добрых настаўнікаў. На апошнім курсе, напрыклад, беларускую мову і літаратуру выкладаў Сцяпан Александровіч, тутэйшы татарын, шчыры патрыёт Беларусі. Галоўнае, мой уласны характар быў на той час ужо ў асноўным сфармаваным, нейкіх рэзкіх хістанняў не адбывалася. Шмат чытаў і рускай, і беларускай літаратуры. А добрая кніга заўсёды вучыць дабру.

— **Скажыце, а да ўласнай творчасці ў вас цягі не было!**

— Як і шмат хто ў маім узросце, спрабаваў пісаць вершы. Адзін з іх не толькі надрукавалі ў "Піянеры Беларусі", але і ў радыёаглядзе гэтай газеты назвалі лепшым. У вачах сяброў-навучэнцаў я адразу ўзрос. А гэта, магчыма, з'явілася нейкім дадатковым стымулам для паступлення на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Разам з Рыгорам Барадуліным паступаў. Але на стацыянар я не прайшоў, не хапіла балаў. Давялося вучыцца на завочным. Прыязджаў на сесіі нават з Нямеччыны, дзе я служыў у групе савецкіх войск.

— **І што, проста так і адпускалі!**

— Не зусім проста, а дзякуючы генералу Бедрагіну, разумнаму франтавому вайскоўцу. Я служыў галоўным бухгалтарам у палітычным аддзеле арміі, ён ведаў мяне асабіста. Тое, што я не хаваў перад ім свайго беларускага патрыятызму, не перашкаджала яго спрыянню ў маёй вучобе. Увогуле трэба сказаць, што амаль усе, з кім сутыкаўся, з цікавасцю ставіліся да гэтага, хоць большасць маіх поглядаў і не падзяляла.

— **Адслужыў. І далей!**

— Вярнуўся ў родны Чэрвень, дзе да войска працаваў у райкоме камсамола. Але цяпер меў іншыя намеры. Вырашыў пайсці шляхам Лабановіча і прысвяціць сваё жыццё дзецям, школе. Меў знаёмага загадчыка РАНА ў Ленінскім раёне (цяпер Жыткавіцкі). Паехаў туды, быў зачараваны Палессем, яго прыродай, людзьмі. Вярнуўся назад, каб зняцца з партыйнага ўліку і вярнуцца назад. Ды дзе там! Чэрвеньскае начальства ўспрыняло гэта як здраду. Трэба было класці на стол партыйны білет. Што гэта значыла на той час — казаць не трэба. І я не адважыўся ісці з уладай у рожкі. Яны ж вырашылі мяне падахвоціць. З камсамола забралі ў райком партыі. Але там я працаваць не здолеў. Вельмі ж усё было зафармалізавана і збюракратызавана. У камсамоле, хоць таксама не без гэтага, але ўсё ж значна вальней, жывей і весялей. Вярнуўся назад, у райком камсамола, але ўжо не інструктарам, а сакратаром. Працаваў як належыць. Заўважылі і павысілі да сакратара Мінскага абкома камсамола. Працаваў у адным будынку, дарэчы, з Рыгорам Барадуліным, на той час супрацоўнікам часопіса "Маладосць". Ён мяне памятаў, нават сваю кніжку "Маладзік над стэпам" падараваў з надпісам-пажаданнем быць нязломным у беларускасці...

— **Перагортваю старонкі вашай кнігі "Будам жыць". Вы адказваеце на пытанне карэспандэнта польскай газеты "Трыбуна Апольска": "Але вось мне прапанавалі працу ў ЦК камсамола ў Маскве. Ты разумееш — гром з яснага неба! Я, нейкі там правінцыйны дзеяч, — і ў Маскву! Хто б не скарыстаў такі выпадак..." Як мне здаецца, тыповае адчуванне маладога чалавека ў тых канкрэтных абставінах. Такім чынам, у 1968 годзе вы пакідаеце Беларусь і пераязджаеце на сталае жыхарства ў Маскву. Як сустрэла вялікая сталіца прышэльца, як вам там пачувалася і чым займаліся!**

— Працаваў у Інстытуце сусветнай сацыялістычнай сістэмы загадчыкам аддзела Польшчы. Дырэктарам у нас, як і дасюль, быў акадэмік Багамолаў. Займаўся вывучэннем і аналізам сітуацыі ў Польшчы, якая істотна рознілася ад нашай. Даводзілася часта пісаць аналітычныя запіскі і ў ЦК КПСС, і асабіста на імя Л. Брэжнева. Тлумачыць, напрыклад, тое, чаму палякі так неахвотна ідуць у калгасы і, наадварот, заўзята наведваюць касцёл. Рыхтаваў такія пасланні я, але, зразумела, за подпісам кіраўніцтва інстытута.

— **Мяне больш цікавіць, як складваліся вашыя асабістыя дачыненні з людзьмі, як супрацоўнікі глядзелі на прыхадня з Беларусі, які, спадзяюся, не ўтойваў ад іх сваёй нацыянальнасці і сваіх поглядаў!**

— Не, не ўтойваў. Па-чалавечы ўсё складвалася добра, бо там у асноўным працавалі культурныя, высокаадукаваныя людзі. Што датычыць перакананняў, успрымання мяне як прадстаўніка народа са сваёй адметнай культурай, сваёй гісторыяй, то тут паразумення дасягнуць было цяжка, практычна немагчыма. І ў гэтым для мяне нічога дзіўнага няма. Бо рускі чалавек, рускі інтэлігент на працягу стагоддзяў выхоўваўся ў разуменні таго, што беларусы — гэта тыя самыя рускія, якіх сілком ад іх адрывалі то літоўцы, то палякі. І мова наша — гэта таксама тая самая руская, але крыху прыпсутая. Карацей, мы ў іх уяўленні адзіны народ, якому трэба дапамагчы пазбавіцца ад нейкіх увогуле неістотных наростаў. На маю беларускасць глядзелі хутчэй як на своеасаблівае дзівацтва. І злаваць на іх за гэта быццам бы няма



# АЎТАНОМІІ

мове, у прыватнасці дагаворы аб падрыхтоўцы педагагічных кадраў, аб забеспячэнні навукова-метадычнай, вучэбнай, мастацкай літаратурай, аўдыявізуальнымі сродкамі абучэння на беларускай мове;

— ажыццяўляць у рамках магчымасцей, што прадастаўляюцца сістэмай адукацыі ў адпаведнасці з заканадаўствам Расійскай Федэрацыі, заканадаўчымі, нарматыўнымі актамі, іншыя мерапрыемствы па забеспячэнню права на абучэнне на беларускай мове, выбар мовы выхавання і абучэння;

— ствараць недзяржаўныя (грамадскія) установы нацыянальнай беларускай культуры: тэатры, культурныя цэнтры, музеі, бібліятэкі, клубы, студыі, архівы і іншыя ўстановы культуры і забяспечваць іх функцыянаванне;

— арганізоўваць творчыя саюзы, калектывы прафесійнага і самадзейнага мастацтва, гурткі па вывучэнню нацыянальна-культурнай спадчыны, дасягненняў нацыянальных культур;

— праводзіць масавыя мерапрыемствы ў галіне нацыянальнай культуры: фестывалі, конкурсы, агляды, выставы, мемарыяльныя вечары і інш.;

— садзейнічаць арганізацыі нацыянальнага краязнаўства, ахове помнікаў нацыянальнай гісторыі і культуры; ствараць краязнаўчыя, этнаграфічныя і іншыя грамадскія музеі;

— засноўваць арганізацыі, што займаюцца мастацкімі народнымі промысламі і рамёствамі;

— выдаваць творы гістарычнай, мастацкай, музычнай, фальклорнай, этнаграфічнай літаратуры на рускай, беларускай і іншых мовах;

— ствараць недзяржаўныя (грамадскія) адукацыйныя ўстановы па падрыхтоўцы творчых работнікаў, педагагічных і іншых кадраў у галіне нацыянальнай беларускай культуры;

— заключаць дагаворы з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі, якія знаходзяцца за межамі Расійскай Федэрацыі, аб культурным абмене і супрацоўніцтве ў галіне захавання нацыянальнай беларускай культуры;

— наладжваць на падставе заканадаўства Расійскай Федэрацыі і падтрымліваць без якой-небудзь дыскрымінацыі гуманітарныя кантакты з грамадзянамі, грамадскімі арганізацыямі замежных дзяржаў, удзельнічаць праз сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у дзейнасці міжнародных няўрадавых арганізацый.

## НЕ — АГРЭСІІ

*Як ні былі ўзрушаны ўдзельнікі з'езда стварэннем беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі, усіх хвалявала яшчэ адна падзея, але трагічнага характару — агрэсія НАТО супраць Югаславіі. У прынятым звароце выказваюцца абурэнне прымяненнем ваеннай сілы ў адносінах да суверэннай дзяржавы, патрабаванне неадкладна спыніць бамбардзіроўкі Югаславіі, вярнуць сітуацыю ў рэчышча палітычнага ўрэгулявання.*

*Васіль ПЯЧКОЎСКІ, беларус з Кастрамы, так выказаў свае пачуцці:*

И снова содрогается земля,
И смерть открыла жадные объятья,
И снова под обломками жилья
Там, на Балканах, гибнут сербы-братья!

Стервятники вновь в небо поднялись,
Смерть изрыгая вожделенно.
Всё полыхает — твердь и высь!
И стон несётся по вселенной!

Ужели равнодушно промолчим,
Взирая на экранах "плач" богатых!
Ужели сербов молча мы дадим
Бомбить стервятникам из НАТО!

Нет! Голос будет слышен россиян,
Чтоб не склонились в скорбном плаче вербы!
Мы с вами! Призываем всех землян
Быть с вами, наши братья-сербы!

29.03.99 г.

## ДАВЕДНІК: «БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ»

Белнацком і беларускія секцыі РКП(б) у рэчышчы бальшавіцкай палітыкі абаранялі інтарэсы беларусаў у РСФСР, выяўлялі інтарэсы той іх часткі, што імкнулася да нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа на платформе савецкага ладу і ў саюзе з РСФСР, бралі ўдзел у падрыхтоўцы абвяшчэння ССРБ (БССР). Канферэнцыя беларускіх секцый РКП(б), якая адбылася ў Маскве 21—23 снежня 1918 года, прызнала неабходным стварэнне Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, выбрала Цэнтральнае бюро беларускіх секцый РКП(б) (старшыня З. Жылуновіч), якому даручыла склікаць Усебеларускі з'езд камуністаў і заснаваць нацыянальны партыйны цэнтр. Гэта падштурхнула ЦК РКП(б) да вырашэння пытання аб утварэнні БССР і КП(б)Б, нягледзячы на супрацьдзеянне як у цэнтры, так і ў кіраўніцтве Паўночна-Заходняга абкома РКП(б), абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх, сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (А. Мяснікоў, К. Ландар, В. Кнорын і інш.), якія выступалі супраць ідэі беларускай дзяржаўнасці, лічылі гэта сепаратызмам. 25 снежня 1918 года на сумесным экстранным пасяджэнні калегіі Белнацкома прадстаўнікамі цэнтральнага бюро секцый РКП(б) і Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) вызначаны спіс кандыдатаў у Часовы ўрад Савецкай Беларускай Рэспублікі. Цэнтральнае бюро беларускіх секцый дэлегавала прадстаўнікоў на абласную партыйную канферэнцыю ў Смаленск, якая абвясціла сябе І-м з'ездам КП(б)Б (30—31 снежня 1918). Ад беларускіх секцый З. Жылуновіч і І. Лагун увайшлі ў склад Цэнтральнага бюро КП(б)Б. Па рашэнню ЦК РКП(б) на І-м з'ездзе КП(б)Б было праклямавана ўтварэнне БССР, у Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад ад Белнацкома і беларускіх секцый РКП(б) увайшлі З. Жылуновіч (старшыня), У. Фальскі, Я. Дыла, Д. Чарнушэвіч, А. Квачанюк, А. Чарвякоў, І. Пузыроў, Ф. Шантыр.

У студзені 1919 года, неўзабаве пасля абвяшчэння БССР, паводле рашэння ЦК РКП(б) усходнія этнічныя беларускія тэрыторыі былі далучаны да РСФСР (Віцебская, Магілёўская, Смаленская губерні). У адносінах да карэннага насельніцтва гэтых зямель працягвалася палітыка русіфікацыі, а раз'яднанасць этнічнай тэрыторыі (па Рыжскай дамове 1921 года паміж Расіяй і Польшчай у склад апошняй уключана Заходняя Беларусь) парушыла натуральнае развіццё нацыянальна-палітычных працэсаў, аказала негатыўны ўплыў на працэсы нацыянальнай кансалідацыі.

**Беларусы ў расійскіх рэгіёнах СССР (1922—1991).** Дзяржаўная палітыка СССР садзейнічала рассяленню беларусаў у іншаэтнічных раёнах краіны. Іх прытоку ў РСФСР спрыяў планавы набор рабочай сілы ў аддаленыя і цяжкія для жыцця і працы раёны Поўначы, на новабудоўлі Урала, Сібіры. Значная колькасць беларусаў знаходзілася ў Расіі на сваіх этнічных землях ад студзеня 1919 года — толькі ў 1924 годзе БССР вярнулі 15 паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў, а ў 1926 годзе — Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Але частка ўсходнебеларускіх зямель засталася ў складзе РСФСР. Паводле перапісу 1926 года за межамі Беларусі ў СССР пражывала 602,5 тысячы яе ўраджэнцаў (галоўным чынам сялян), з іх 320 тысяч — у Сібіры і на Далёкім Усходзе. У Заходняй вобласці (з 1937 года —Смаленскай) пражывала 83 тысячы беларусаў, у Ленінградскай вобласці — 55 тысяч, Маскве і Маскоўскай вобласці — 42 тысячы чалавек. У 1926—1939 гадах з БССР, насельніцтва якой складала каля 5 мільёнаў чалавек, выехалі 617 тысяч чалавек (пераважна жыхары сельскай мясцовасці), у тым ліку большасць з іх у РСФСР. Пры гэтым значная доля беларусаў была перасялена прымусова. У канцы 1920-х—пачатку 1930-х гадоў (у РСФСР былі высланы многія прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі, абвінавачаныя ў так званым "нацыянал-дэмакратызме". Масавыя дэпартацыі з Беларусі ажыццяўляліся ў ходзе суцэльнай калектывізацыі, палітычных рэпрэсій 1930-х гадоў.

У 1920-я гады пад уплывам нэпа і беларусізацыі пры пэўным садзейнічанні дзяржаўных органаў БССР і РСФСР на абсягах апошняй актывізавалася нацыянальная дзейнасць беларусаў, найперш на сваіх этнічных землях. Каардынацыяй і кіраваннем сістэмай нацыянальнай адукацыі і культурна-асветных устаноў займалася Беларускае цэнтральнае бюро пры Народным камісарыяце асветы. Дзейнічалі беларускія секцыі пры Віцебскім (1921—1924), Смаленскім (1922—1923, 1925—1927), Гомельскім (1921 — пачатак 1927) губернскіх аддзелах народнай асветы. У 1920-х гадах у месцах кампактнага пражы-

Працяг.
Пачатак у №№ 9—12.

(Працяг на 10-й стар.).

# ЦЁПЛАГА КАМЕНЯ

прычыны. Возьмем хоць бы Купалу, нашага прарока, магутнага генія. Але што пра яго рускія ведаюць? "Хлопчыка і лётчыка" ды яшчэ "З Масквы, з Крамля..." А як падаецца наша гісторыя з падручнікаў, наша народнае і прафесійнае мастацтва? Нейкія скупыя, невыразныя, урывачныя звесткі. Калі імкнуцца да інтэграцыі, то найперш нам трэба наладзіць інфармаванасць у самым шырокім сэнсе, каб рускія ведалі, які народ жыў і жыве побач з імі. Бо атрымліваецца не роўнасць, а аднабаковасць, своеасаблівая гульня ў адны вароты...

**— Выходзіць, славутае "Письмо к русскому другу" з'явілася працягам і вынікам вашых вусных дыскусій з канкрэтнымі людзьмі. Яно, мяркую, не толькі этапная з'ява ў грамадзянскім станаўленні Аляксея Каўкі, але і беларускага нацыянальнага Адраджэння новага часу! У сваім змесце ўтрымлівае тое, над чым наша грамадства задумаецца значна пазней. Скажыце, а як яно трапіла ў Лондан, дзе было надрукавана ў 1979 годзе!**

— Трапіла, як і многа чаго ў той час траплялa, што не магло быць надрукаваным у Расіі, не кажучы пра Беларусь. Але во што я табе скажу. Мае рускія знаёмыя са мной не пагаджаліся, зацята спрачаліся, але ніхто з іх не апускаўся да нейкай чалавечай нянавісці, да такой нізасці, як віжаванне і данос. Больш таго, калі пасля публікацыі "Письма..." у Лондане на мой адрас і тэлефон пачалі прыходзіць сігналы, яны рабілі ўсё, каб адвесці ад мяне бяду. На той час я ўжо быў у Польшчы, і сам разумееш, што мяне, савецкага дыпламата, магло чакаць, калі б тайна стала явай...

**— А няўжо з боку палякаў вы не сутыкаліся з тым жа непаразуменнем беларускіх праблем! Я, напрыклад, такое адчуў на сабе ў маладыя гады на бытавым узроўні. Шмат працаваў тады як гід-перакладчык. Калі палякі даведваліся, што я родам з Навагрудчыны, то адразу жвавелі і неяк па-свойску лагаднелі: "О, то пан ест поляк!". Колькі ні пераконваў, што не паляк, а беларус, паверыць у гэта ніяк не маглі.**

— На гэты конт і я мог бы шмат цікавага сказаць, але гэта асобная гаворка.

**— Ці былі ў вас сяброўскія стасункі з беларусамі ў Польшчы!**

— Вядома. Найперш з нашым слаўным гісторыкам Юркам Туронкам з Варшавы, які тады шмат на што мне вочы расплюшчыў, падказаў, дзе якія матэрыялы, што мяне цікавілі, трэба шукаць. Асабліва ўразілі і дапамаглі ў працы "Запісы" Беларускага інстытута літаратуры і мастацтва ў Нью-Йорку, складзеная Вітаўтам Тумашам і апублікаваная ў іх "Скарынаведа". Пазней некаторыя савецкія даследчыкі, нават не спасылаючыся на першакрыніцу, шмат з яе зачэрпалі і скарысталі ў сваіх даследаваннях, прысвечаных нашаму Першадрукару.

**— А што вам найбольш запомнілася з таго часу!**

— Святкаванне стагоддзя Купалы і Коласа. Усё, што здолеў, зрабіў, каб юбілеі нашых песняроў былі годна адзначаны ў Польшчы. Але найбольш запала ў душу святкаванне Купалавых угодкаў на Беларусі ў Вязынцы.

**— Вы трапілі туды!**

— А хіба можна было ўтрываць! Паехаў без узгадненняў, на сваю рызыку, на службовай машыне. Як сёння памятаю — прыехалі ў Радашкавічы. Пытаю ў людзей, што сабраліся на аўтобусным прыпынку: "Як нам трапіць на Маладзечна, у Вязынку? — А ці ж ты, чалавеча, кажуць, не бачыш, што ўся Беларусь паднялася і памкнулася туды? Едзьце з усімі і трапіце да Купалы!". І сапраўды было штосьці нечуванае і нябачнае: мора людзей! Мо сто, а мо і ўсе дзвесце тысяч. І ўсе акрыленыя, узрушаныя, радасныя! Вось я тады сапраўды паверыў і пераканаўся, што Беларусь жыве і жыць будзе вечна!

**— У 1987 годзе вы вярнуліся з Польшчы ў Маскву, нядоўгі час папрацавалі галоўным рэдактарам усесаюзнага часопіса "Советское славяноведение" (доля беларускай тэматыкі ў гэты час у ім відавочна ўзрасла) і перайшлі на працу вядучым навуковым супрацоўнікам у Інстытут сусветнай літаратуры імя Максіма Горкага Расійскай акадэміі навук, дзе працуеце і дасюль. Што паспрыяла таму, што так надоўга прыкіпелі!**

— Тое, што я нарэшце здабыў, хоць і адносную, як і ўсё на свеце, але свабоду. Маю магчымасць займацца тым, што мне дарага і цікава — беларусістыкай. Тут я абараніў доктарскую дысертацыю, у аснову якой пакладзена выдадзеная і пры вашым, спадар Лецка, спрыянні кніга "Тут мой народ: Францыск Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатак XX ст. ст.". Атрымаў магчымасць працаваць у архівах і бібліятэках Масквы, Пецярбурга, Вільні, Мінска, нават у Лондане пабыў у славутай беларускай бібліятэцы, якой апякуецца айцец Аляксандр Надсон. Было шмат цікавых сустрэч, але, на жаль, пра ўсё не раскажаш, бо час прыспешвае.

**— Калі так, то раскажыце крыху пра беларусаў Масквы, пра тое, як ядналіся і гуртаваліся. Як вядома, вы з'яўляецеся ініцыятарам стварэння, калі не памыляюся, першай на абшарах колішняга Савецкага Саюза суполкі беларусаў — Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны, былі старшынёй яе Рады ў 1988—1990 гадах.**

— Беларускае, сапраўды, мабыць было першым. Але ўжо існавалі армянскае і ўкраінскае зямляцтвы. Услед за імі пайшлі і мы. Вышуквалі землякоў па знаёмых, адрасных і тэлефонных даведніках. На ўстаноўчы сход сабралася мо і не так шмат (чалавек сорак) ад агульнай колькасці беларусаў, якіх пражывае ў Маскве тысяч 70—80, але гэта былі людзі годныя і зацікаўленыя. Назаву ўсяго некалькіх. Ужо нябожчык Фёдар Канстанцінаў. У 30-я гады ён перакладаў на беларускую мову Ільфа і Пятрова, у вайну рэдагаваў часопіс "Славяне", быў добра знаёмы з Янкам Купалам. Але больш, чым у Расіі і Беларусі, гэты чалавек вядомы ў Балгарыі як блізкі сябра і дарадца Георгія Дзімітрава. З падмаскоўнага Обнінска да нас далучыўся фізік-ядзернік Валерый Голуб, а са Шчэрбінкі Міхал Шкялёнак, які пазней стаў прадпрымальнікам і шмат фінансава дапамог у нашых беларускіх справах. Патрыятычна настроенымі аказаліся і вайскоўцы, сярод якіх і палкоўнік у адстаўцы Антон Сабалеўскі, які на працягу некалькі гадоў пасля мяне ўзначальваў беларускае пабрацімства ў Маскве. Упрыгожылі наш сход і слаўныя беларускі, сярод якіх дачка Адама Бабарэкі Алеся і перакладчыца беларускай літаратуры Вольга Шчадрына... Былі і такія, што даўно забыліся беларускую мову і нават мелі цьмянае ўяўленне пра Беларусь, пра яе гісторыю і культуру, але цяга да свайго жыла ў іх падсвядома, генетычна. Такіх людзей трэба гарнуць да сябе і абуджаць. Гэта, мяркую, для беларускіх суполак не менш важна, чым гуртаванне нацыянальна свядомых аднадумцаў.

**— У гэтай сувязі пытанне, якое асабіста мяне хвалюе вельмі даўно. Сёння, як вядома, амаль ва ўсіх рэгіёнах Расіі створаны беларускія зямляцтвы, і на пачатку красавіка беларусы Расійскай Федэрацыі сабраліся на свой Устаноўчы з'езд. Даўно ўжо беларускія зямляцтвы існуюць у Польшчы, Літве, Латвіі і г. д., уключаючы Амерыку, Аўстралію, усё так званае далёкае замежжа. Але ніякіх праяў яднання і беларускага абуджэння няма там, дзе, здавалася б, яно павінна было б выявіцца найбольш выразна і моцна: у памежных з Беларуссю расійскіх рэгіёнах — Смаленшчыне, Пскоўшчыне, Браншчыне...**

— Няпростая праблема... Бо сапраўды ж пералічаныя рэгіёны і гістарычна, і духоўна, і побытава-эт-

(Заканчэнне на 10-й стар.).

## АДРАС — ДЗЯЦІНСТВА

*Удзельнік з'езда Станіслаў ДАШЧЫНСКІ шмат гадоў жыве ў Мурманску. А нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Валкоўшчына Магілёўскай вобласці. Пра той час і сваіх землякоў ён з гумарам успамінае вось у такіх замалёўках.*

ДА МОМАНТУ майго нараджэння мае бацькі не мелі свайго жылля, туліліся ў куце ў дзеда Лявона. У таго была хата прасторная, пяцісценка, з дзвюх палавін. У адной размяшчалася праўленне калгаса, а ў другой — бабка з дзедам і мае бацькі.

Бальніца была толькі ў райцэнтры, і маме давялося выправаджваць мяне на гэты свет у час пасяджэння калгаснага парламента. Калі я падаў голас, старшыня спытаў з другой палавіны:

— Хто там — калгаснік ці калгасніца?

— Мужык, — адказалі бабкі-павітухі.

— Давай яго сюды — у прэзідыум!

Потым, калі я вырас, мне сапраўды нямала давялося пасядзець у прэзідыумах. Мусіць, калгасны старшыня напрарочыў.

* * *

Загса таксама не было, запісы аб нараджэннях, вяселлях і смерці рабілі ў сельсавеце. Ён размяшчаўся ў іншай вёсцы, за сем кіламетраў ад нашай.

Наступнай раніцай бацька здабыў дзве бутэлькі самагонкі, сунуў па адной у кожную штаніну і адправіўся ўзаконьваць факт майго з'яўлення на свет. Але, як ён расказваў потым, зрабіў непапраўную памылку: са старшынёй і сакратаром сельсавета распраўляліся з самагонкай да рэгістрацыі факта з'яўлення на свет новага калгасніка, а не пасля. І калі сталі афармляць дакументы, то паставілі ў іх дату распіцця, а не нараджэння. Бацька разззлаваўся:

— Не вазьму ваш брак — перарабляйце!

— Не можам, — адказвалі старшыня з сакратаром. — Дакумент строгай справаздачнасці. Нічога страшнага: на адзін дзень памаладзілі твайго хлапца.

— "Нічога страшнага", — перадражніў бацька. — З Леніным развялі і са мной!

Ён меў рацыю: і мой бацька, і Уладзімір Ільіч Ленін, і я нарадзіліся 22 красавіка. Але ў пашпарце маім з-за той самагонкі на ўсё жыццё прапісалася іншая дата — 23 красавіка.

Але я не прагадаў: кожны свой дзень нараджэння адзначаю двойчы: і калі нарадзіўся, і калі, падвыпіўшы, рэгістравалі.

* * *

Царквы тым больш паблізу не мелася, дзяцей хрысцілі заезджыя свяшчэннікі. Да кожнай такой падзеі дзятва набіралася рознаўзроставая. Мяне хрысцілі ўжо трохгадовым.

Пакуль бацюшка гатаваў ваду, я падхапіў прас з гарачымі ўнутры вуглямі і пачаў размахваць ім. Ён адкрыўся, і вуглі рассыпаліся па падлозе. Задыміліся тканыя палавікі.

Бацюшка доўга тупаў нагамі, тушыў агонь і крычаў:

— Антыхрыста прывялі!

І тут жа адплаціў мне, адмовіўшыся ўзаконіць дадзенае мне бацькамі імя.

— Няма ў мяне такога... Станіслаў — каталіцкае. Выбірайце праваслаўнае або я сам знайду.

Бацькі разгубіліся. А ён пагартаў трэбнік. Бліжэйшы да майго нараджэння аказаўся дзень святога Яўстафія. Пад гэтым імем і запісаў ён мяне ў царкоўную кнігу. З таго часу, апынуўшыся ў царкве, даводзіцца ўсякі раз прыпамінаць святога Яўстафія... Але якога? Быў з гэтым імем ў XII стагоддзі архіепіскап ў Салоніках, прафесар красамоўства, гісторык і пісьменнік. Пісаў памфлеты аб падзенні нораваў манаства. Быў Яўстафій — першы літоўскі мучанік. І расійскі духоўны дзеяч з Серпухава насіў такое ж імя...

## ДАВЕДНІК: «БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ»

(Працяг. Пачатак на 9-й стар.).

вання беларускага насельніцтва (Смаленшчына, Заходняя Сібір і Далёкі Усход) функцыянавалі дзесяткі беларускіх школ, клубаў, хат-чытальняў і інш. Беларусізацыя школ першай ступені Заходняй вобласці дасягнула 36 працэнтаў. З 1930 года пачалі работу Рудянскі беларускі педагагічны тэхнікум і беларускі рабфак у Смаленску.

Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны актыўную культурна-асветную і навуковую працу ў Расіі разгарнулі беларускія зямляцтвы, якія дэкларавалі лаяльнасць да савецкай улады: смаленскае і гомельскае, Беларуская культурна-навуковая асацыяцыя пры Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, беларускія асацыяцыі ў Ленінградзе, Смаленску, Горы-Горках. Дзейнічала Цэнтральнае бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый у Маскве. У 1921 годзе ў Маскве адкрыта беларуская оперна-драматычная студыя пры МХАТ. Беларуская песенная камісія пры Маскоўскім інстытуце музычнай навукі апрацавала і гарманізавала 250 беларускіх народных песень. Улады імкнуліся падпарадкаваць сабе нацыянальна-культурную дзейнасць, перавесці яе ў рэчышча афіцыйнай ідэалогіі. У процівагу існуючым беларускім асацыяцыям з 1929 года партыйна-камсамольскія органы БССР ініцыявалі стварэнне беларускіх студэнцкіх зямляцтваў на аснове пралетарскай ідэалогіі і паходжання з БССР. Пры фінансавай і матэрыяльнай падтрымцы ўлад у 1920-я гады існавалі Беларускае пралетарскае студэнцкае зямляцтва ў Маскве, беларускія зямляцтвы ў Варонежы, Волагдзе, Казані, Ленінградзе, Растове-на-Доне, Саратаве, Смаленску, Томску, якія стварылі беларускія бібліятэкі, гурткі беларускай мовы і гісторыі. У 1924—1930 гадах у Маскве дзейнічала Таварыства палітычных эмігрантаў з Заходняй Беларусі (аддзяленні ў Смаленску і Уладзіміры). Але паступова беларускі пралетарскі зямляцкі рух губляў нацыянальную аснову, моцна ідэалагізаваўся. Разам з набыткамі выявіліся і яўныя цяжкасці ў развіцці беларускага культурна-асветнага руху: недахоп сродкаў, падрыхтаваных кадраў, невысокі ўзровень, безадказнасць мясцовых выканаўцаў палітыкі беларусізацыі, а ў многіх месцах — негатыўнае стаўленне ці нават супраціўленне гэтаму працэсу мясцовага партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва, органаў народнай асветы, пасіўнасць саміх беларусаў, іх слабае самаўсведамленне.

Пры рэзкай змене палітычнага і нацыянальнага курсаў у СССР на рубяжы 20-х — 30-х гадоў дзейнасць нацыянальных грамадскіх арганізацый была прызнана немэтазгоднай. Ліквідацыя нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў у Расіі на этнічных землях паскорыла працэсы іх асіміляцыі. Запаволілася, а затым і зусім спынілася беларусізацыя ў іншаэтнічных рэгіёнах Расіі. У другой палове 30-х гадоў былі ліквідаваны апошнія нацыянальныя арганізацыі: Беларускі клуб у Маскве (1936), Беларускае студэнцкае зямляцтва ў Ленінградзе (1937).

У гады Вялікай Айчыннай вайны, калі Беларусь стала важным плацдармам ваенных дзеянняў, ва ўсходнія раёны СССР было эвакуіравана звыш 1,5 мільёна чалавек, а таксама больш за 120 буйных прадпрыемстваў, устаноў адукацыі, навукі і культуры, вядучых творчых калектываў. Эвакуіраванае насельніцтва працавала ў прамысловасці, на чыгунцы, у сельскай гаспадарцы, навуковых установах РСФСР. Пад Масквой з 1943 года аднавіў дзейнасць Беларускі дзяржаўны універсітэт, у Яраслаўлі — Мінскі медыцынскі інстытут. Пасля заканчэння вайны шмат эвакуіраваных засталося на Урале, у Паволжы, Сібіры, іншых рэгіёнах РСФСР.

# РАЗВІТАННЕ ЛЯ ЦЁПЛАГА КАМЕНЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

награфічна блізкія нам. Каб пераканацца ў гэтым, досыць перагарнуць "Словарь Западной Брянщины" П. Растаргуева, "Смоленский областной словарь" У. Дабравольскага, яго ж "Смоленский этнографический сборник", "Отличия в верованиях и обычаях белоруссов и великоруссов Смоленской губернии". У гэтых і іншых кнігах, у аснове якіх этнакультура расійска-беларускага памежжа, цуд зіхацення ўсяго нашага, спрадвечна беларускага. У лексіцы, стылістыцы, этнаграфіі, звычках, прымхах, традыцыях, рамёствах. А гэта ж не выдумкі так званых бебурнацаў, а сведчанні салідных рускіх вучоных дарэвалюцыйнага часу. Генетычная памяць, скажу табе, рэч трывалая. І тое, што мы жылі калісь у адной дзяржаве, Вялікім княстве Літоўскім, паслугоўваліся і на побытавым, і на дзяржаўным узроўні агульнай мовай, захоўвалася, насуперак ціску русіфікацыі, праз стагоддзі. Нездарма ж твор, з якога пачынаецца адраджэнне новай беларускай літаратуры — "Энеіда навыварат", — напісаны на Смаленшчыне.

**— Але ж сёння праяў гэтай памяці ўжо быццам і не адчуваецца. Прынамсі, навідавоку.**

— Гэта так, але ж яна жыве, цепліцца. Якраз у гэтым і бачу прычыны інтэлігенцкага здранцвення і маўчання вакол расійска-беларускага памежжа. Усе нібыта пагадзіліся, што не трэба варушыць мінулага, кранаць балючых мазалёў, бо так спакайней і зацішней. Але давай зразумеем гэтых людзей, глянем на гісторыю навейшага часу, на тое, як утваралася БССР. Абвешчана была, як вядома, 1 студзеня 1919 года ў Смаленску. Пры гэтым, заўважым, у сваіх этнічных межах, вызначаных яшчэ да рэвалюцыі акадэмікам Расійскай акадэміі навук Яфімам Карскім. Кажуць, што гэта была рэакцыя на БНР. Але потым вакол беларускай дзяржаўнасці пачалася вакханалія. Утвараецца незразумелы гібрыд, так званы Літбел (Літоўска-беларуская рэспубліка), у якой амаль усе кіраўнікі чамусьці былі літоўцы. Потым Заходнюю Беларусь савецкі ўрад саступае Польшчы, а з БССР робіць малюсенькага карліка. Памятаеш, як Якуб Колас у вершы "Паселі наш край" з іроніяй канстатаваў:

Пакінулі пяць нам паветаў,
То дзякуй за гэта...

Потым, бачачы, што далі маху, пачынаюць рэспубліку ўзбуйняць, але без згоды і волі саміх беларусаў, рэальных межаў рассялення беларускага народа. Дык няўжо ўсё гэта не магло адбіцца на самасвядомасці нацыі, якая на працягу стагоддзяў была пазбаўлена ўласнай дзяржаўнасці?! Ды як бы мы ні ацэньвалі БССР, яна ўсё ж, няхай і ў скалечаным выглядзе, зачаткі гэтай самай дзяржаўнасці ўтрымлівала. Не было б яе — наўрад ці ўтварылася б Рэспубліка Беларусь, больш таго, ці мелі б мы сваю прызнаную ў свеце самабытную нацыянальную культуру. У гэтым сэнсе лёс расійска-беларускага памежжа вельмі прадказальны на будучыню: гэта адчувальны сігнал засцярогі...

**— Сапраўды, на гэтым памежжы ў 20-я гады была не адна-дзве, а сотні беларускіх школ, былі іншыя спецыялізаваныя навучальныя ўстановы, шырока развіты краязнаўчы рух, мастацкія калектывы, на беларускай мове выдавалася перыёдыка і кнігі. Потым пачаліся рэпрэсіі і ўсё знікла, нібы апусцілася ў змрочнае прадонне. Той жа Аляксандр Твардоўскі, які дасюль лічыў сябе беларусам, перапісаўся на рускага. Фактаў можна прыводзіць шмат, але гэта ўжо гісторыя. Ці ж магчыма адраджэнне сёння!**

— Толькі пры ўмове, калі Беларусь будзе поўнацэннай дзяржавай, здабудзе аўтарытэт у свеце, стане гарантам уласных нацыянальных каштоўнасцей, калі не трэба будзе заўзятарам і аматарам беларушчыны хадзіць дзеля самазаспакаення па кватэрах і ўпрошваць бацькоў аддаць дзіця ў беларускі клас. Бо гэта абсурд. У кожнай цывілізаванай краіне і вышэйшыя навучальныя ўстановы, і ўся дзяржаўная машына працуе на роднай мове. А калі тут гэтая мова ў заняпадзе, дык пра якое памежжа і які аўтарытэт у свеце можна казаць...

**— Але ж беларускае школьніцтва спакваля адраджаецца ў памежнай Літве, існуе на Беласточчыне. Дык няўжо ж найблізкае нам па духу расійска-беларускае памежжа — нейкае заклятае месца!**

— Найперш, мяркую, трэба стварыць кафедру беларусаведы пры Смаленскім дзяржаўным універсітэце, а таксама ў школе ўзаконіць выкладанне прадмета, звязанага з рэальнай гісторыяй гэтага краю. Або чаму, узнікае пытанне, у школах Беларусі так шырока выкладаецца і руская мова, і руская літаратура, а ў Расіі з усім беларускім нуль. Выходзіць, што, скажам, Фанвізін — гэта сусветная велічыня, а наш Купала ці Багдановіч — не вартыя ўвагі?!

*Але тут наша размова, якая праходзіла ў скверы ля помніка Янку Купалу, перапынілася. Насустрач размашыста шыбаваў — хто б вы думалі! — Анатоль Сыс, жывая легенда беларускай літаратуры. Па тым, як Аляксей і Анатоль зацікаўлена ўзіраліся адзін у аднаго, я зразумеў, што яны асабіста незнаёмыя. Пачуўшы, хто перад ім, Аляксей Канстанцінавіч страшэнна ўзрадаваўся, быццам у працяг нашай гаворкі выгукнуў, што ўпершыню з творам А. Сыса — маналогам Афанасія Філіповіча — пазнаёміўся на тым самым Установчым сходзе маскоўскіх беларусаў, дзе верш хадзіў у рукапісе. Да Каўкі падышла дзяўчына, якая прынесла ад нашага слыннага пісьменніка Максіма Лужаніна матэрыялы для чарговага выпуску "Скарыніча", які будзе прысвечаны стагоддзю ўзвышэнца Адама Бабарэкі. Але, апрача гэтай, у Аляксея Канстанцінавіча была яшчэ адна запланаваная сустрэча ў беларускай зале Нацыянальнай бібліятэкі. Ён намовіў нас пачакаць паўгадзінкі, бо проста так разысціся — грэх. Мы пагадзіліся, а каб не марнаваць часу, схадзілі на выставу мастака Квяткоўскага, балазе гэта было побач. Спадар Каўка вярнуўся са сваім сябрам, вядомым даследчыкам-архівістам Віталем Скалабанам. Мы прайшлі па горадзе, завіталі ў парк і аблюбавалі месца ля вялізнага валуна.*

*Адчувалася бруенне красавіцкага дня, покліч да чагосьці невядомага і неспазнанага. Хоць ведаў Анатоля Сыса даўно, але сёння ён быў нейкі незвычайны, наўздзіў самавіты і свойскі, без уласцівай яму знарокліваў бунтарнасці. Можа спрыяла тое, што якраз перад нашай сустрэчай падпісаў у выдавецтве дамову на выданне ўсяго напісанага. Тут жа з Аляксеем Каўкам дамовіліся, як толькі кніга выйдзе, ён прыедзе на сустрэчу да беларусаў Масквы.*

*Гаварылі мы не толькі пра паэзію, але пра ўсё, пра вайну таксама, якая ўжо некалькі дзён кіпела на зямлі Югаславіі.*

*Якой жа ты будзеш для нас, вясна надзей і трывогі нашай?..*

*Калі ўжо развітваліся, каб разысціся ў розныя бакі, а ў чарговы прыезд у Мінск нашага слаўнага Беларусіна зноў сустрэцца тут, Анатоль Сыс прыхінуўся да цёплай шчакі ўгрэтага сонцам каменя, абняў яго аберуч і прамовіў як просьбу-заклінанне:*

*"Абудзіся, дзядуля, наш слаўны вяшчун-валуне! Ты ж усяго пабачыў на сваім вяку. Скажы нам, прароча, як яно будзе на Беларусі?".*

*І падалося, што прагучала ў адказ: "Б-у-у-дам жыць!"*

**Яўген ЛЕЦКА.**



АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ПОЛЬШЧА

Ад усяго сэрца хачу падзякаваць рэдакцыі за рэгулярную перасылку мне на працягу некалькіх гадоў "Голасу Радзімы". Ваша выданне — гэта паведў дзяцінства, родных краявідаў і культуры.

Жыла ў Кобрыне, цяпер на прыгожых "Мазурах", якія так шчымліва нагадваюць мне радзімую старонку.

Хацелася б колькі слоў сказаць пра сваю каханую матулю (1901—1972). Была яна, мяркую, перад вайной адзінай жанчынай-скульптарам у Польшчы, якая скончыла Акадэмію мастацтваў у Кракаве. Вам, магчыма, цікава ведаць, што ў аграрна-тэхнічнай акадэміі ў Ольштыне вось ужо некалькі гадоў працуе "Галерэя скульптуры Бальбіны Сьвітыч-Відацкай". Так што калі каму з Беларусі надарыцца быць у гэтых краях — сардэчна запрашаем на выставу твораў сваёй землячкі.

Буду і надалей удзячная за перасылку тыднёвіка, які з вялікай прыемнасцю чытаю.

Д-р Ёвіта ВІДАЦКА-САЛЯРСКА.

АНГЛІЯ

У суботу 27 сакавіка 1999 года ў канферэнц-зале Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны, 39, Holden Road London № 129HS, адбылася акадэмія, прысвечаная 81 угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Перад акадэміяй, а 14 гадзіне, у капліцы святых апосталаў Пятра і Паўла айцец А. Надсон адслужыў малебен за беларускі народ.

Пасля малебна прысутныя перайшлі ў канферэнцыйную залу. Акадэмію адкрыла старшыня ЗБВБ (Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі) спадарыня Лёля Міхалюк. Яна прывітала прысутных і ў сваёй змястоўнай прамове паведаміла аб важнасці для беларускага народа акта 25 сакавіка, гадавіну якога беларуская дыяспара штогод адзначае. Прывітальныя тэлеграмы прачытаў сябра ўправы Ігар Лебатсэвіч. Прывітанні былі ад старшыні БНР Івонкі Сурвілы, з Беларусі ад "Бацькаўшчыны", ад розных беларускіх арганізацый Амерыкі, Аўстраліі, еўрапейскіх краін. Вельмі змястоўныя рэфераты пра падзеі, якія прывялі да абвяшчэння незалежнасці Беларусі, прачыталі студэнты англійскіх універсітэтаў Ігар Іваноў і Павел Шаўцоў. Патрыятычныя вершы Якуба Коласа пра Беларусь чытала яго ўнучка Марыя Міцкевіч. На англійскай мове вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа дэкламавала іх перакладчыца, вялікі сябра беларусаў Вера Рыч. Акадэмія закончылася выкананнем нашага гістарычнага гімна: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Жанчыны прыгатавалі добры пачастунак, дзе пры чарцы віна з канапэ прысутныя знаёміліся адзін з адным і дзяліліся сваімі ўражаннямі і ўспамінамі.

Прыемна было бачыць беларускую моладзь, якая так натуральна ўжывае беларускую мову.

З пашанай

Сыльвестар БУДКЕВІЧ.

Ковентры, 29 сакавіка 1999 года.

БЕЛАРУСКАЯ СТАРАСВЕТЧЫНА

# «СПАДАЮЧЫ ЗВОНКА СТО КУБКАЎ, СТО ЧАР НАЛІВАЮЦЬ...»

Каб даведацца, як жылі, што елі і пілі нашы продкі, найлепш зазірнуць у тагачасную мастацкую літаратуру. З якой этнаграфічнай дакладнасцю і сапраўды гурманскай вытанчанасцю, напрыклад, апісвае Адам Міцкевіч снеданне беларускай шляхты недзе ў ваколіцах Навагрудка:

Старэйшыя пані, устаўшы раней, пілі каву,
Цяпер жа затое зрабілі інакшую страву.
З гарачага піва з набелам сабранай смятаны,
У каторым плыве грудкамі тварог пасяканы.

А вяленне розна на выбар мужчынаў чакала:
Кумпяк і паўгускі, й скрылькі языка —
і нямала
Усяго й смакавіта, усё спосабам свойскім
дамовым
Увялена ў коміне моцным дымком
ядлаўцовым;
Затым яшчэ зразы унеслі на апошняе данне:
Такое бывала ў доме суддзі там сняданне.

Шляхта, зрэшты, любіла не толькі паесці, але і выпіць. У XVIII стагоддзі Беларусь і Літва славіліся тым, што тут варылі найлепшыя мяды і піва ў свеце. Рускі акадэмік Севяргін, які падарожнічаў па Беларусі ў тыя часы, калі адбывалася дзеянне ў Міцкевічавым "Пане Тадэвушы" (на пачатку XIX стагоддзя), пісаў, што найлепшым напоем на шляхецкіх балях быў пітны ліпавы мёд, якім, паводле старасвецкага звычаю, частавалі гасцей.

Так было і ў доме Міцкевічавага Сапліцы, дзе гасцям, апрача замежных він і венгжыны, падносілі мёд, гарэлку і піва.

Пітны мёд быў, бадай, самым распаўсюджаным напоем ў тыя часы ў нашым краі. Яго варылі ў розных гарадах Беларусі. Існавала шмат спосабаў прыгатавання гэтага напою. Найбольш распаўсюджаным быў наступны: гарнец (3,28 літра) разагрэтага мёду змешваўся з пяцьцю гарцамі вады і ставіўся на суткі ў цёплае месца. Потым вадкасць працэджвалася і ставілася на агонь. Калі варыва выгатоўвалася да паловы, туды далівалі столькі ж халоднай вады і дадавалі шышкі хмелю, змешчаныя ў палатняны мяшочак. Варылі зноў да таго часу, пакуль не заставалася палова вадкасці. Звараны мёд пераглівалі ў дубовую бочку і, астудзіўшы яго, дабаўлялі дрожджы, намазаныя на раскроены абаранак. Звычайна мёд "выходжваўся" каля двух тыдняў. Потым яго зноў працэджвалі і пералівалі ў новую бочку. Чым даўжэй такі мёд захоўваўся, тым быў мацнейшы.

Вось як апісвае Міцкевіч спажыванне такога мёду тагачаснай засцянковай шляхтай:

...Тут Гярвазы ўспомніў мінуўшы
Часы і казаў сабе даць паясы тры з кантушаў,
На іх жа са склепу тры бочкі выцягуе жыва:
Мядову, другую гарэлкі, а трэцюю піва.
Як выцягнуў шпунты, тры пырснулі з шумам
фантаны:
Чырвона-крывавы і жоўты й адзін серабраны;
Спадаючы звонка сто кубкаў, сто чар
наліваюць...

Шмат існавала ў тыя часы і спосабаў прыгатавання гарэлкі, якую варылі з мясцовай сыравіны на ўласных броварах. Паводле разнастайных дадаткаў (карэнне, прыправы, зёлкі) існавалі і розныя гатункі гарэлкі: аераўка, анісаўка, мятная, гваздзікоўка, цытрынавая, міндалавая і інш.

Апрача гарэлкі, былі папулярныя яшчэ і ў нашы часы разнастайныя наліўкі, настойкі, вадзянкі, што рабіліся найчасцей з вішань, агрэсту, чарніц і іншых ягад.

Да распаўсюджаных алкагольных напояў належаў і крупнік, які варылі з гарэлкі, мёду, масла з дабаўкамі цынамону, гваздзікі і іншых прыправ. Яго з задавальненнем спажывала не толькі пінская шляхта ў славутай камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча, але нават у наш час крупнікам любяць пацешыць сябе аматары беларускай старасветчыны.

Галіна ТЫЧКА.





*Не дзе-небудзь, а на міжнародным конкурсе "Крым. Моцныя напоі. 1999", які адбыўся ў Ялце, атрымала залаты і сярэбраныя медалі прадукцыя Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода — гарэлка "Трыумф", бальзам "Чорны рыцар" і гарэлка "Консул".*

*Фота БелТА.*

ВЫСТАВЫ

# ЯН БУЛГАК – ФОТАЛЕТАПІСЕЦ І РАМАНТЫК ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ ХХ СТАГОДДЗЯ

***Галерэя NOVA, што ўжо не першы год працуе ў сталічнай бібліятэцы імя Я. Купалы, пры падтрымцы Польскага інстытута наладзіла цікавую фотавыставу "Віленская элегія", якая дазволіла шырокай аўдыторыі пазнаёміцца з творчасцю славутага фотамайстра Яна Булгака.***



СТАРЫЯ здымкі валодаюць дзіўнай магіяй, бо даюць магчымасць убачыць мінулую эпоху. Дзякуючы ім, мы літаральна "трымаем у руках" кадры гісторыі, любуемся архітэктурнымі і прыроднымі пейзажамі, магчыма, ужо сцёртымі з твару зямлі. А калі да таго ж яны зроблены майстрам, які не проста фіксуе аб'екты, падзеі, а па-мастакоўску асэнсоўвае іх, каштоўнасць такіх здымкаў незвычайна вялікая.

Да такіх фотамайстроў належаў і наш зямляк Ян Булгак. Ён нарадзіўся ў вёсцы Асташына пад Навагрудкам у 1876 годзе. Скончыў класічную рускую гімназію ў Вільні, навучаўся ў Ягелонскім універсітэце. Да 1912 года настаўнічаў у Мінскай губерні, але, вырашыўшы прафесійна займацца фатаграфіяй, кінуў службу і паехаў у Вільню, дзе пражыў да 1947 года. Ян Булгак доўгі час узначальваў лабараторыю мастацкай фатаграфіі ў Віленскім універсітэце, супрацоўнічаў з часопісам "Веснік фатаграфіі", займаўся навуковымі даследаваннямі. У 1931 годзе ў Варшаве выйшла яго праца "Фотаграфіка. Падручнік па мастацкай фатаграфіі", а ў 1939 годзе ў Вільні пабачыла свет кніга "Пра першых віленскіх фатографаў". Апошнія гады Ян Булгак жыў у Варшаве. Пры яго непасрэдным удзеле быў заснаваны Саюз польскіх фотамастакоў.

На фотавыставе ў галерэі NOVA ўпершыню публічна экспанаваліся матэрыялы з фонду Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, ілюстраваныя кнігі з серыі "Падарожжы фатографа ў словах і праяўленнях" (спецыяльна да гэтай выставы перакладзеныя з польскай мовы на беларускую), самі фотаздымкі і паштоўкі, зробленыя па здымках Яна Булгака. У аснову гэта пейзажы Віленшчыны, сядзібы, іх інтэр'ер. А самая каштоўная частка экспазіцыі фотамайстра — 26 арыгінальных фотаздымкаў, якія занатавалі прывабныя куточкі Вільні. Яны зроблены сапраўдным рамантыкам, улюбёным у гэты горад.

Выстава выклікала вялікую цікавасць не толькі спецыялістаў, але і шырокага кола гледачоў.

Ніна ШАМШУРЫНА.



*Вострая брама.*



*Касцёл бернардзінцаў.*

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ МАРГАРЫТЫ СТАРЫХ

# ПРА АЛЕНУ — РУКАДЗЕЛЬНІЦУ



## СУСТРЭЧА

...Калі б я ведала, што аднойчы напаткаю Алену Артынскую... Калі б я ведала, мая рука ніколі не замахнулася б на рэшткі бісернага жакета маёй маці. Нават па тым кавалачку, што ад яго застаўся, можна было меркаваць, якая гэта была прыгожая рэч. І ўсё ж мая рука не здрыганулася, і я распарола, зрэзала бісер, каб знайсці для яго нейкае новае прымяненне. Але ішлі гады, а бісер так і ляжаў у двух пакецiках, зусім не страціўшы свайго таямнічага антрацытавага бляску.

Алена, да якой дайшлі чуткі пра гэты самы кавалачак незвычайнага жакета, была расчаравана, даведаўшыся ад мяне, што ён даўно не існуе. І прыйшлося мне разварушыць памяць сваю, каб апісаць узор і нейкія незвычайныя карункі, што былі асновай для бісера.

А потым... Потым я ўбачыла работы па бісеру самой Алены Артынскай і зразумела, што сустрэла сапраўднага, цікавага майстра па гэтаму напаўзабытаму мастацкаму рамяству. І прыйшло шкадаванне, што так бяздумна парушыла той кавалачак — сведку даўняга майстэрства.

...Са звычайнай поліэтыленавай торбы Алена пачала даставаць цуды: змяю, што закруцілася ў нейкі дзівосны вузел і трымае ў пастцы яйка (яе бісерная луска выпраменьвае халодны тусклы бляск, які прыцягвае, зачароўвае), санетку — бісерную стужку з узорам у зялёна-залацістых танах і званочкам на канцы. Калісьці пані падобнымі санеткамі выклікалі сваіх прыгонных Марысь і Арын, каб тыя неслі чай ці атрымалі чарговае распараджэнне гаспадыні. Яйка цёмна-блакітнага колеру ў ажурнай серабрыстай падстаўцы нагадвала нейкую дзіўную кветку; гайтан (стужка, да якой



*Уладзімірская Божая Маці.*

прымацоўваецца медальён ці ладанка, а ў наш час — проста нейкія падвескі-ўпрыгажэнні); драўляны падсвечнік, аздоблены арнаментальнымі ўстаўкамі; у драўлянай рамцы, быццам з акенца, выглядае певень-прыгажун, тканы бісерам... Ніколі не падумала б, што бісер і дрэва добра пасуюцца. Не, зусім не выпадкова дагэтуль жыве выраз "бісерная работа" (дакладна — марудная, але ў выніку — прыгожая, вытанчаная).

Усе гэтыя прыцягальныя рэчы Алена несла на мастацкі савет, які адбіраў творы на традыцыйную калядную выставу — своеасаблівую справаздачу майстроў за год. Дарэчы, у Саюзе майстроў народнай творчасці "бісерніц" на той час было толькі дзве — Алена Артынская і Вольга Траццякова. Ці не таму, што амаль забытае гэта мастацкае рамяство, яго сёй-той пачаў лічыць зусім нетрадыцыйным для Беларусі.

Інакш, як воляй Божаю, не назавеш тое, што прывяло Алену да гэтага карпатлівага, але такога захапляючага занятку. Давялося ёй неяк трапіць на семінар у Кіеў, а там пазнаёміцца з незвычайным чалавекам — Энгелісай Літвінец, аўтарам адзінай на той час кнігі па бісернай тэхніцы. Яна гэтую кнігу, можна сказаць, з адчаю напісала, а яшчэ — ад вялікага жадання прывесці да ладу рэшткі бісернай санеткі мінулага веку, што ёй у спадчыну дасталася. Колькі Літвінец ні шукала, хто б гэта мог зрабіць, так і не знайшла. Але на гэтым шляху пошукаў розных ведаў набралася, тую-сюю тэхніку бісерную засвоіла ды не толькі санетку рэстаўрыравала, але і кнігу напісала.

Алену зачаравала жанчына, тое, што яна робіць. Тут жа адшукала яе кнігу, купіла бісер — трэба ж такому здарыцца! — яго якраз упершыню за ўсе гады завезлі ў магазін. А калі скончыўся, пачала набываць чэшскую біжутэрыю — распускала нізкі і рабіла, што душа прагнула і фантазія падказвала. А потым... Потым захацелася даведацца пра бісер, калі не ўсё, то як мага больш — вучоба (завочна) у Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў на мастацтвазнаўчым факультэце, абарона дыпломнай адпаведна яе інтарэсам — "Бісер і шклярус першай паловы XIX стагоддзя ў Расіі". Абараніла работу — радуецца, што паспела, а то б ужо, як іншаземцам, давялося вялікія грошы плаціць. Пакуль Алена рэалізуе сябе як майстар, але, магчыма, праз пэўны час з'явіцца кніга-даследаванне пра развіцце бісернага рамяства на Беларусі. Ва ўсялякім разе яна зусім не сумняваецца, што рамяство гэта бытавала і ў нас, насіла традыцыйныя рысы. Яна вяртаецца не да такога ўжо далёкага часу.

## НЕШТА ПА-ЗА СЯЛЯНСКІМІ І ДВАРАНСКІМІ ТРАДЫЦЫЯМІ

— Памятаеце выбух кічавай моды — розныя вышываныя бісерам і шклярусам ружы і іншыя кветкі на жаночых кофтачках? Дык вось, на ўсё гэта пайшоў бісер з бабкіных і прабабкіных куфраў. Нам так доўга ўводзілі ў вушы — маўляў, да рэвалюцыі былі толькі пагалоўная галеча, жабрацтва, п'янства, што з цяжкасцю можна паверыць у тое, што нават на пачатку XX стагоддзя сялянкі яшчэ займаліся бісернымі работамі. Зразумела, навошта вясковай жанчыне расшыты бісерам кашалёк? Гэтым гараджанкі займаліся. А вось упрыгажэнні розныя, аздабленні святочнай вопраткі умелі рабіць усе з маленства. Гэтаму навучалі, сакрэты перадавалі з пакалення ў пакаленне. Вядома, не толькі шыццё бісерам і рачным жэмчугам існавала, былі і іншыя рукадзеллі — адзіная магчымасць творчага самавыяўлення, асабліва для вясковых жанчын. У нас на курсе ў акадэміі была адна валагжанка, дык яна расказвала, што да нядаўняга часу дзяўчына, у якой прасціны не былі аздоблены карункамі, набывала славу гультайкі.

Цяпер адносна бісеру. Так, у простых жанчын існавала і свая тэхніка — нізанне. А вось дваранкі займаліся больш бісерным вышываннем і вязаннем бісерам. (Марыя Балконская ў ссылцы нават Сіксцінскую мадонну бісерам вышывала...).

Якую я тэхніку абрала? Займаюся рознай, але мяне кудысьці на дваранскі шлях усё цягне, — магчыма, "падсапсаванае" паходжанне адбіваецца: прабабка мая была дваранкай, Институт благородных девиц скончыла, а значыць, была высокаадукаванай, асабліва "па частцы жаночай".

Так атрымалася, што мы не бачыліся з Аленай Артынскай гады два, але работы яе па-ранейшаму дэманстраваліся на выставах Саюза майстроў народнай творчасці. Там я і ўбачыла бісерныя абразы Святой Ефрасінні Полацкай і Уладзімірскай Божай Маці. Яны сведчылі не толькі пра тое, што майстар дасягнула новых творчых вяршынь, але і пра нейкія ўнутраныя змены.

## ДОЎГАЧАКАНАЯ МАШАЧКА

І вось мы зноў сустрэліся, і стала адразу зразумелым: прычына ўсіх перамен — вясёлая гадавалая Машуня.

— Я Уладзімірскую рабіла, калі была цяжарная, а за абраз Ефрасінні ўзялася — маёй дачушцы тры месяцы споўнілася. Так, гэта была нейкая патрэба душы. Мне адкрыліся такія рэчы, якія да канца можна зразумець, калі ты сама маці.

Цяпер задумала абраз Марыі Егіпецкай зрабіць, каб ён ахоўваў маю дачушку. А яшчэ нарэшце ажыццявіць даўнюю задуму — вокладку Бібліі з бісерным арнаментам. Вядома, тут трэба абавязкова строга прытрымлівацца царкоўных канонаў. Увогуле, цяпер у мяне з'явілася магчымасць папрацаваць на ўласную калекцыю, а не для заробку. Будуць у ёй не толькі культавыя рэчы, а і свецкія. Дарэчы, нядаўна мне прысніўся прыгожы бісерны каўнерык, ну як ад яго адмовіцца?! А яшчэ хочацца зрабіць цудоўную сумачку, пудраніцу, чахольчык для духоў... Прыемныя жаночыя дробязі. Муж мой прыхільнік японскай мадэлі сям'і, ну а мне ўсё ж хочацца працаваць. Праўда, супраць калекцыі ён нічога не мае і падтрымлівае мяне ў гэтым.

Ці задумвалася пра персанальную выставу? А як жа! Як і пра тое, што трэба неяк і па маёй прамой спецыяльнасці рабіць — я ж мастацтвазнаўца. Адным словам, задум шмат, але самая галоўная сярод іх — мая дачушка Машачка.

**P. S.** Было прыемна даведацца, што частку чорнага бісеру, падараванага мною Алене, яна выкарыстала пры стварэнні абраза Святой Ефрасінні Полацкай.



*Санеткі і гайтаны.*



*Велікодныя яйкі.*

*Фота Віктара СТАВЕРА.*

## НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

● *ГОМЕЛЬ*

### ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ

Адкрытае акцыянернае таварыства "Гомельдрэў" выпускае вельмі прыгожую мэблю, якая карыстаецца вялікім попытам у насельніцтва. Тут працуюць і прыгожыя душой людзі. Многія з іх улюбёныя ў песню і музыку, спяваюць у сваім хоры, які носіць ганаровае званне "народны" і які адзначыў 50-гадовы юбілей. Ля яго вытокаў стаяў былы навучэнец Гомельскага музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага Міхась Дрынеўскі. Сёння ён — народны артыст рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.

● *МАГІЛЁЎ*

### ТРАДЫЦЫЯ АДНОЎЛЕНА

"Магілёўская даўніна" — такую назву мае рэгіянальны навукова-краязнаўчы часопіс, шосты нумар якога пабачыў свет. Гісторыя стварэння выдання вядзе адлік з пачатку стагоддзя, калі зборнік "Могилевская старина" перыядычна выдаваў Еўдакім Раманаў — вядомы этнограф і гісторык, заснавальнік першага магілёўскага музея.

● *БРЭСТ*

### «ТЭАТРАЛЬНАЕ ПАЛЕССЕ-99»

Пад такой назвай у вобласці распачаты фестываль, у якім бяруць удзел аматарскія (дзіцячыя і дарослыя) тэатральныя калектывы ўсіх раёнаў. Журы зараз вылучае лепшых. Творчы экзамен трымалі ўжо Іванаўскі і Пінскі раёны, гарады Пружаны і Бяроза... Лепшыя самадзейныя тэатры збяруцца ў Брэсце ў лістападзе.

● *ВІЦЕБСК*

### ТАНЦУЙ, ПАКУЛЬ МАЛАДЫ

Шосты раз у Віцебску прайшоў фестываль спартыўнага танца "Феерверк грацый-99". Удзел прымалі танцавальныя пары з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі. Галоўны прыз "Залаты туфлік" быў уручаны пераможцам сярод 14-ці груп у залежнасці ад узросту і прафесійнай падрыхтоўкі. Вылучыліся пары выкладчыкаў Наталлі і Андрэя Кананенка, Наталлі і Анатоля Таўсташовых з Віцебска.



СКАРБАШУКАЛЬНІКІ КУЛЬТУРЫ

# ЧАЛАВЕК-АРКЕСТР ВІКТАР СКОРАБАГАТАЎ:

## «ТРЭБА ВЯРНУЦЦА НАЗАД — ГЭТА І БУДЗЕ ПРАГРЭСАМ»

*Віктар Скорабагатаў — унікальны чалавек. Бог надзяліў яго многімі талентамі: рэдкі голас, цудоўная выканаўчая тэхніка (адсюль вядучыя партыі ў класічных операх) — гэта адзін з бакоў яго творчасці. Іншы — азартны даследчык, бліскучы знаўца гісторыі музычнай культуры. Нехта з журналістаў назваў яго хадзячай музычнай энцыклапедыяй, а мне здаецца, мы яшчэ не можам да канца ўсвядоміць, што побач з намі ходзіць, безумоўна, гістарычная асоба, чалавек-аркестр, які змог ужо цяпер столькі зрабіць для айчыннай культуры, колькі не заўсёды пад сілу зрабіць цэламу інстытуту з некалькімі дзесяткамі супрацоўнікаў. Досыць толькі пачаць пералік...*

*Яму належыць ідэя, арганізацыя, а галоўнае, напаўненне зместам унікальнага фестывалю пад назвай "Адраджэнне беларускай капэлы". Ён стаяў і стаіць ля вытокаў выдатнай нотнай серыі "Музыка старадаўніх беларускіх сядзіб", музычных манаграфій "Мацей Радзівіл" і "Антоній Радзівіл", ён не проста актыўны ўдзельнік складання многасерыйнай нотнай эпапеі, якая пачала выходзіць пад агульнай назвай "Беларускі гістарычны нотазбор", але адзін з вядучых даследчыкаў у гэтай галіне. Ну а яго музыказнаўчыя гіпотэзы даўно сталі ўпрыгажэннем нясвіжскіх навуковых канферэнцый у рамках фестывалю камернай музыкі. Ён умее надаць ім прыгажосць, асаблівы інтэлектуальны бляск, а часам і сенсацыйнасць. Менавіта яго стараннямі зроблены ў нашай краіне першы ў XX стагоддзі запіс оперы Антонія Радзівіла "Фаўст"...*

**— Віктар Іванавіч, як атрымалася, што вы, вядомы саліст ДАВТа, які можа пажынаць лаўры пеўчай кар'еры, раптам з галавой акунуліся ў "адраджэнне беларускай капэлы" і выявілі надзвычайныя даследчыя здольнасці! Прычым усё, чым вы займаецеся, раптам набывае абрысы прыгажосці, складваецца ўражанне, што ў вас усё атрымліваецца гуляючы.**

— Напэўна, гэта рыса характару, калі "не сядзіцца на месцы". Як спявак, я не раз рыхтаваў для сябе розныя канцэртныя праграмы. І паступова стаў пераконвацца, гартаючы ноты, чытаючы літаратуру, што Беларусь не проста багатая на музычную спадчыну, а ў свой час нават дыктавала Еўропе музычныя густы, а мы, спадчыннікі гэтай культуры, ні-чо-га не ведаем пра яе.

**— Ну, вы скажаце!**

— Добра! Пытанне да вас: колькі тэатраў, прычым оперна-балетных, існавала ў Беларусі, скажам... у XVIII стагоддзі?

— ...

— Вось і яно! 26! Цяпер, як вы ведаеце, у нас адзін такі тэатр, значыць, у дваццаць шэсць разоў менш. Тэатры працавалі на васьмі мовах. Пераклад не патрэбны быў ні артыстам, ні гледачам. Апішу коратка адзін толькі тэатр Міхала Клеафаса Агінскага ў Слоніме. Тэатр знаходзіўся на Опернай вуліцы (Як вам назва? Не будзем гаварыць пра сучасную тапаніміку!) і змяшчаў дзве з паловай тысячы гледачоў. Фантастыка? У ім налічвалася 108 музычных інструментаў, не гаворачы ўжо аб касцюмах, "машынерыі" сцэны. Гавораць, пры жаданні на сцэне па сапраўднай вадзе маглі плысці сапраўдныя караблі.

Ды і рэпертуар быў значны. Менавіта тут праз два месяцы пасля венскай прэм'еры гучала араторыя І. Гайдна "Стварэнне свету", дарэчы, напісаная Гайднам па падказцы Агінскага. А ў тэатры Сапегаў у Пружанах адбылася адна з першых у Еўропе прэм'ер оперы Глюка "Арфей і Эўрыдыка". У Магілёўскім тэатры мела месца абсалютная прэм'ера вядомай оперы Дж. Паізіела "Уяўная каханка".

**— Значыць, узнікла жаданне падзяліцца тым, што вам адкрылася!**

— Аказалася, што наша гісторыя пачынаецца з 1919 года. Вось я і падумаў, успомніўшы вялікага Вердзі: "Трэба вярнуцца назад — гэта і будзе прагрэсам". Так сем гадоў назад пры ажыятажным аншлагу і пачаўся першы фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы". У канцэртах гучала чароўная музыка, створаная на нашай зямлі Агінскім, Манюшкам, Ельскімі, Казлоўскім, Радзівіламі. Тады здавалася, што гром прагучаў сярод яснага неба. Людзі былі ў захапленні і здзіўленні: чаму ўсяго гэтага хараства не было побач так доўга. І, па-мойму, адбылося разуменне таго, што мы культурная, адукаваная нацыя.

**— Чула, вы хочаце перайменаваць свой фестываль. Чаму?**

— Аднойчы мне падумалася, калі завяршыўся сёмы фестываль "Адраджэнне...": кожнае стагоддзе ўзнаўляем, вяртаем ці то забытае, ці то адабранае. Усё, хопіць! Фестываль будзе насіць сцвярджальную назву: "Беларуская капэла". А потым рэаліі зменшылі мой пыл. Усё-такі пакуль наша работа вядзецца ў асноўным на энтузіязме, яшчэ не нададзена нашай справе магутнай, завязанай на традыцыях інерцыі. Трэба пачакаць.

**— А што павінна адбыцца, каб працэс не зніжаў абароты!**

— Пакуль толькі дадзены імпульс людской цікавасці да гістарычнага музычнага прафесіянальнага мастацтва. Яшчэ трэба будзе ўвесь гэты матэрыял увесці ў канцэртную і вучэбную практыку. Але для гэтага неабходна стварыць інфраструктуру. Пачаць хаця б з нотнага выдавецтва, якога ў рэспубліцы няма.

Ці вось раскапала ў Кракаве Вольга Дадзіёмава, наш вядомы музыказнаўца, 10 гадоў назад рукапісную партытуру вядомай оперы Яна Голанда "Агатка". Яе лічылі згубленай у час апошняй вайны. Нядаўна сумесна з Беларускай акадэміяй музыкі была выдадзена партытура оперы. (Дарэчы, мы гістарычна гэтым выданнем абагналі Польшчу. Думаю, гэта добрая прыкмета). З цяжкасцю, але нам удалося зрабіць запіс оперы на рэспубліканскім радыё. Жывога ж сцэнічнага выканання "Агаткі" ў гэтым стагоддзі на яе радзіме ў Беларусі яшчэ не было.

Праўда, я быў уражаны, прачытаўшы ў газеце пісьмо выкладчыка музычнай школы, які прапанаваў дзень гучання "Агаткі" па радыё зрабіць днём нацыянальнай музычнай культуры. Гэтаму маленькаму пісьму я быў вельмі рады.

**— Мне было надта цікава пачуць ваша меркаванне аб тым, што ў "Лебядзіным возеры" вядомая мелодыя паланеза — своеасаблівая калька з мелодыі Кароля Ельскага, а меладычная тэма арыі Ленскага запазычана Чайкоўскім з раманса Міхала Агінскага "Абуджэнне". Вы на гэтым і цяпер настойваеце!**

— Каб адказаць на ваша пытанне, мне давядзецца пець. Як вы справіцеся ў газеце з такой аргументацыяй?

**— Паспрабуем.**

— Калі я, выступаючы дзе-небудзь, кажу, што руская культура ўвабрала беларускі мелас, адразу пачынаецца: не можа быць! Але вось я напяваю вам мелодыю фінала VI сімфоніі Пятра Чайкоўскага (спявае!). Пазнаяце? Вядома! А цяпер я прaспяваю вам фрагмент раманса Агінскага "Абуджэнне", які папярэднічаў напісанню сімфоніі Чайкоўскага гадоў гэтак на 60. Вядома ж, Пётр Ільіч сустракаў у бібліятэках выданне італьянца Рыкордзі, які публікаваў творы Агінскага. Гэта, вядома ж, не плагіят, гэта ўплыў. І пра гэта трэба ведаць.

Тое ж самае з паланезам з "Лебядзінага возера" Чайкоўскага (спявае!). А цяпер з крыху змененым рытмам я напяю "Паланез 1937 года" беларуса Кароля Ельскага. Пазнаяце? У XVIII—XIX стагоддзях музычнае наватарства ішло з захаду на ўсход. Таму няма нічога дзіўнага, што нават у такіх вядомых рускіх меладыстаў, як Гурылёў, Варламаў, выкарыстоўваўся мелас італьянскай, нямецкай, польскай, беларускай музычных школ. Так-так, мы былі адным са значных цэнтраў музычнай культуры Еўропы. Толькі чамусьці сталі гэтага саромецца.

**— Раскажыце, Віктар Іванавіч, як вы прыклалі руку, больш правільна, голас да шматгалоснага святкавання 500-годдзя адкрыцця Амерыкі?**

— Прыехаў у Мінск вядомы італьянскі кампазітар Гамберыні. Прывёз араторыю "Хрыстафор Калумб". Заўважу, мы атрымалі ноты і тэкст, ужо перакладзены на беларускую мову. У філармоніі мы з калегамі выканалі араторыю. Зрабілі яе запіс на радыё. Запіс растыражаваны па ўсім свеце міланскай студыяй. Чаму да нас у Беларусь прыехаў маэстра? Гаворыць, што чуў ад сяброў, што ў Мінску цудоўныя музыканты і спевакі. Прыехаў. Праверыў. Пераканаўся ў прафесіяналізме. Адзначае, што беларускае выкананне не саступае італьянскаму, амерыканскаму, нямецкаму. Дарэчы, у Францыі гэты дыск прадаюць у музычных магазінах за 35 долараў.

**— І на развітанне, Віктар Іванавіч, давайце яшчэ раз згуляем у ваша пытанне і ваш жа адказ наконт гісторыі музычнай культуры. Вы маеце рацыю, мы так дрэнна яе ведаем. Адукуйце хоць скупой інфармацыяй.**

— Нават найбагацейшую айчынную гісторыю музычнай культуры XX стагоддзя мы ведаем дрэнна. Што, напрыклад, вам гавораць імёны Уладзіслава Спаскага, Мікалая Бутомы, Яна Тарасевіча, Ганны Мейчык? Раскажу пра апошнюю. Ганна Мейчык — мінчанка, яе бацька, па сутнасці, стаяў ля вытокаў стварэння мінскага універсітэта. Скончыўшы Пецярбургскую кансерваторыю, яна спявала ў лепшых тэатрах свету — Ла Скала, Метрапалітэн-опера. Была адзінай, хто выконваў мужчынскую партыю Дэмана ў аднайменнай оперы Рубінштэйна, прытым бліскуча. Вялікі раздзел музея Метрапалітэн-опера прысвечаны гэтай славутай спявачцы. Яна — гонар легендарнага тэатра. А ці многа мы ведаем пра яе? Мы чулі яе голас? А ёсць жа запісы. Так што "адраджэннем" нацыянальнай музычнай культуры нам давядзецца займацца яшчэ не адно дзесяцігоддзе...

**Гутарку вяла Ірына ГУРЫНОВІЧ.**
("Советская Белоруссия").


*Фота Аркадзія НІКАЛАЕВА.*

## ВЫКЛЮЧЭННЕ З ПРАВІЛА

***Аддаючы належнае форме твораў (пішу, апроч звычайных рыфмаваных вершаў, санеты, трыялеты, газелі, байкі, акравершы, белыя вершы, двух- і чатырохрадкоўі), ніколі, аднак, не карыстаўся формай дзеля формы — заўсёды быў незанядбаны змест. Гэта ж кажу і пра свае фігурныя вершы, якія прыходзяць да мяне, вядома, як выключэнне з правіла. Адно прашу: не кажыце, калі ласка, што ў літаратуры ўсё такое ўжо было, бо хіба агульнапрынятыя ямбавыя, харэічныя, дактылічныя (і г.д.) вершы з'явіліся толькі сёння. Усё было!.. І не лічыце фігурныя формы твораў прыкметаю нейкага там упадку ці адрывам паэта ад жыцця, бо творцы ўжо наслухаліся розных псеўданавуковых тэорый.***

***Калі я сваімі нязвыклымі формамі твораў падарую чытачу хоць бы імгненнае здзіўленне, а тым больш усмешку, а не кіслы выраз твару, — атрымаю вялікую радасць. З новай вясною вас, дарагія людзі!***

**Васіль ЖУКОВІЧ**

**Не звужу свет**
**да шырыні акна**
**і шырыні сцяны,**
**сцяжыны й поля.**
**Як вецер пахне!**
**Як цвіце вясна!**
**Я**
**вас**
**люблю,**
**прырода,**
**людзі, воля.**

* * *

**О,**
**я ўдзячны, Тварэц,**
**дзякуй, маці Прырода, —**
**вы мяне адарылі дзівам жыцця,**
**плоць, і кроў, і душу мне далі,**
**падарылі мне цэлую гаму пачуццяў,**
**не пакрыўдзілі, не абдзялілі мяне.**
**Дзякуй, дзякуй, Зямля, ты ўскарміла**
**з дапамогай ласкавага яснага Сонца.**
**Дзякуй, Неба, за храм таямніцаў,**
**за прастору яго, вышыню і красу,**
**тут імкліва раслі мае крылы,**
**адкрываліся драма жыцця**
**і яго немінаючы**
**цуд.**

* * *

**Нацягне навальніца цеціву,**
**а я пагодай іншаю жыву,**
**неверагоднаю пагодай,**
**не сонцам за акном,**
**яе зямным цяплом,**
**святой лагодай**
**вуснаў, слоў.**
**Пагода ўся**
**яе любоў,**
**надзея,**
**вера,**
**зго-**
**да.**
**Ты — ясная мая пагода.**

* * *

**Я**
**быў**
**табой**
**паланён.**
**Ведала ты**
**й пакахала,**
**ды нашы зоркі**
**захмарыла ўраз.**
**О, ці згадваеш ты**
**нашых зорных нябёсаў**
**вышыню, чысціню і красу!**

ЗАХАПЛЕННІ



# ЛІМОННЫ САД ІГАРА ЗАХАРАВА



Дзесяць гадоў працуе ў Цэнтральным батанічным садзе Акадэміі навук Беларусі Ігар Захараў. Шэсць з іх ён даглядае лімонны сад, які расце ў даволі прасторнай цяпліцы, побач з фондавай аранжарэяй экзатычных раслін, распаўсюджаных толькі ў трапічных і субтрапічных лясах. Прыйшоў Ігар Юр'евіч у "лімонную" цяпліцу пасля заканчэння лесагаспадарчага факультэта Беларускага тэхналагічнага універсітэта. Але ведаў пра экзоты не хапала, таму прадоўжыў навучанне ў аспірантуры Акадэміі навук па спецыяльнасці батанік. Зараз у гаспадарцы маладога батаніка каля 150 лімонных дрэў. Ігар Захараў адзначае: добры настрой з'яўляецца адразу, як толькі пераступіш парог цяпліцы. І гэта зразумела: якім бы ні было надвор'е, тут вечназялёны аазіс.

**Сяргей САБАДАШ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



*Догі, ратвейлеры, ньюфаўндленды, сярэднеазіяцкія аўчаркі — усяго 86 прадстаўнікоў розных парод з Віцебска, Гомеля, Мінска, Бабруйска і іншых гарадоў былі прадстаўлены на нацыянальнай сертыфікацыйнай выставе сабак у Віцебску. Падзея яшчэ раз яскрава пацвердзіла: выраз — «Сабака — сябар чалавека» не згубіў сваёй актуальнасці, застаецца толькі пажадаць, каб і чалавек быў сябрам усяму жывому на зямлі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.*

## АНЕКДОТЫ

Гутараць два "новыя беларусы".

— Як справы?

— Нічога. Вось учора сыну падагнаў пазалочаны "мерс"... А ты што свайму падарыў? У яго ж таксама дзень нараджэння...

— Волгу.

— Ты што? Гэта ж цяпер не крута!

— Ведаю. Але яму пакуль хопіць. Сабе я, калі ў Штатах быў, іншую рачулку купіў. Місісіпі называецца.

* * *

— Віла сапраўды прыгожая, — кажа пакупнік. — А тут ціха?

— Так! У гэтым годзе абрабавалі пяць дамоў, і ніхто нічога не пачуў.

## СМАЧНА ЕСЦІ

### ПЯЧЫСТА

Гэта святочная мясная страва гатуецца ў Беларусі з вялікіх кавалкаў мяса, часцей за ўсё кумпяка, паяснічнай часткі буйной жывёлы ці з цэлых тушак дробнай жывёлы і птушкі. Пячыста можа быць тушанае (у закрытым посудзе), смажанае, а таксама адваранае (на нядоўгі час змяшчаючы у гарачую печ для ўтварэння скарынкі).

Мяса кладуць на глыбокую патэльню, соляць, пасыпаюць перцам, цыбуляй, часнаком, маяранам, каляндрай, паліваюць некалькімі лыжкамі кіпеню і ставяць, закрыўшы накрыўкай, у гарачую печ ці духоўку. Вакол пячыста звычайна кладуць бульбу.

### ПІРОГ З АРЭХАМІ

Перамешваюць тварог, алей, малако, цукар і соль, палавіну нормы мукі. Астатнюю муку перамешваюць з содай, прасейваюць праз сіта, дабаўляюць у цеста і энергічна вымешваюць. Для начынкі расціраюць маргарын з цукрам, нацёртай цэдрай, яйкамі, дабаўляюць здрабнёныя арэхі, гарбуз, даведзены да мяккасці ў невялікай колькасці вады і працёрты праз сіта.

Цеста раскатваюць на змазаным тлушчам блясе, выкладваюць на яе начынку і выпякаюць у духоўцы пры сярэдняй тэмпературы да гатоўнасці.

Для цеста: $1^1/_3$ шклянкі мукі, сода, 125 грамаў тварагу, 6 сталовых лыжак малака, соль, $2^1/_2$ сталовыя лыжкі цукру, 6 сталовых лыжак алею.

Для начынкі: 375 грамаў гарбуза, 50 грамаў арэхаў, 2 яйкі, лімонная цэдра, 2 сталовыя лыжкі цукру, 100 грамаў маргарыну.

## АНЕКДОТЫ

— Мама, мама, — крычыць Франсуаза, паказваючы на свайго маленькага брата. — Клод схапіў газету і есць яе!

— Хай есць, — адказвае маці. — Гэта ўчарашняя газета.

* * *

Хворы, які ішоў на папраўку, прызнаўся прыгожай сястры:

— Я вас так кахаю, што не магу папраўвіцца.

— Не хвалюйцеся, — адказала яна, — вы і не папраўвіцеся. Урач таксама ў мяне закаханы, а ён бачыў, як вы ўчора мяне цапавалі.

## КРЫЖАВАНКА «ЗДАРОЎЕ»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Комплекс навук аб хваробах, іх лячэнні і прафілактыцы. 6. Старажытнагрэчаскі ўрач — рэфарматар антычнай медыцыны, з імем якога звязана вядомая клятва ўрача. 8. Прытворства, стварэнне ілжывага ўяўлення аб хваробе. 11. Частка арганізма, якая мае пэўную будову і спецыяльнае прызначэнне, выконвае пэўную функцыю. 14. Лекавы парашок з кары паўднёваамерыканскага дрэва, які прымяняецца супраць малярыі. 15. Традыцыйны гарачы напой з лісця, пупырышак чайнага куста, які ўтрымлівае кафеін, вітамін С, дубільныя і іншыя карысныя для здароўя рэчывы. 16. Заменнік цукру для хворых на дыябет. 17. Даўнейшая назва аўтамабіля хуткай дапамогі, якая дайшла да нас з тых часоў, калі аўтамабіляў яшчэ не было. 21. Хвароба, пры якой асобныя органы або частка цела трацяць здольнасць да адвольных рухаў. 22. Вельмі багатая на вітаміны травяністая расліна з ядомым кіславатым лісцем. 23. Дробны мікраарганізм, які выклікае заразныя захворванні. 26. Рэчывы, якія выкарыстоўваюцца ў якасці болепатольнага або снатворнага сродку, што выклікаюць узбуджаны стан арганізма, паралізуюць нервовую сістэму. 27. Арганічныя рэчывы, неабходныя для харчавання і жыццёвай дзейнасці арганізма. 28. Бальнічны лісток, размоўная назва лістка непрацаздольнасці.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Славуты расійскі неўролаг, псіхіятр, псіхолаг, заснавальнік і кіраўнік псіханеўралагічнай навуковай школы. 2. Зрушэнне касцей з пастаяннага месца ў суставе. 3. Спецыяліст, які вырабляе лінзы для акуляраў і іншай тэхнікі для паляпшэння зроку. 4. Лячэбная ўстанова, пераважна для цяжкахворых. 7. Кавалачак цвёрдага рэчыва, якім закладваецца дупло сапсаванага зуба. 9. Аптэчны работнік са спецыяльнай адукацыяй, які вырабляе і адпускае лекі. 10. Паніжаны артэрыяльны ціск у выніку некаторых інфекцыйных, нервова-эндакрынных і інш. захворванняў. 12. Малодшы медыцынскі работнік, які абслугоўвае хворых, параненых, які прыбірае памяшканні ў лячэбных установах. 13. Страта жыццядзольнасці і змяншэнне памераў органа, асобных тканак арганізма ў выніку парушэння харчавання або працяглай бяздзейнасці. 18. Кніга, у якой занатаваны папулярныя спосабы лячэння розных хвароб, захворванняў. 19. Штучна выкліканы сон са стратай прытомнасці і болевай адчувальнасці. 20. Захворванне або смерць у выніку ўздзеяння на арганізм ядавітых рэчываў або сапсаванай, нядобраякаснай ежы. 24. Хвароба — запаленне тоўстай кішкі. 25. Гнойны нарыў, фурункул.

**Склаў Яўген ЛЯХАЎ.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 623 экз. Індэкс 63854. Зак. 715.
Падпісана да друку 17. 04. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.